Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 48 (4899) 2 снежня 2016 г.



# Нашчадкі ды сутворцы

## Летапіс пісьменніцкай арганізацыі: удакладніць і працягваць

Наспела: сустрэцца з тымі, каго даўно не бачылі, але нагодаў для размоў і добрых слоў назбіралася шмат: кнігі і памятныя даты, высокія адзнакі калег і проста жаданне пабачыць сяброў. Пісьменнікі збіраюцца на з'езд раз на пяць гадоў — падсумаваць вынікі працы сваёй творчай супольнасці, абмеркаваць кірункі надалей. Але сама магчымасць сустрэчы — шмат хто прыехаў з розных рэгіёнаў Беларусі — ужо значная: гадзіна да афіцыйнага адкрыцця з'езда падарыла чаканыя эмоцыі, вітанні, размовы. Працяг будзе ўжо ў зале: урачыста.

Зала поўная: ганаровыя госці, даўнія сябры, удзельнікі — зарэгістраваліся 367 чалавек з 606 членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, кожны з якіх трымаў мандат: для адказнага галасавання. У прэзідыуме — ганаровыя госці, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса. Удзельнікі віталі сцяг Саюза пісьменнікаў Беларусі. Хвілінай маўчання ўзгадалі тых, хто сышоў у лепшы свет за апошнія 5 гадоў. Але ёсць працяг іх справам.

«Лепшыя ўзоры літаратуры, праўдзівае, пранікнёнае слова творцаў заўсёды фарміравалі этычныя і эстэтычныя ідэалы, служылі станаўленню грамадства, умацаванню высокіх маральных прынцыпаў», — адзначана ў віншаванні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў адрас удзельнікаў з'езда, якое зачытаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Ігар Бузоўскі. На пачатку з'езда прагучала прапанова лічыць цяперашняе жыццё арганізацыі працягам існавання саюза, закладзенага ў 1934 годзе Купалам і Коласам і іншымі класікамі беларускай літаратуры. Прапанову пісаць «III (XIV) з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі» сустрэлі гучнымі і працяглымі апладысментамі. У гэты дзень яны выбухалі шмат разоў — спантанна, у гарачым душэўным парыве, падтрымліваліся калегамі, разносіліся па зале хваляй. Неаднойчы яны перарывалі і справаздачны даклад старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца: сабраў, агучыў думкі многіх пра набалелае:

— За апошнія пяць гадоў сябры Саюза пісьменнікаў паказалі вельмі заўважныя station вынікі. Калі ацэньваць аб'ектыўна, то іх можна выказаць у колькасці выдадзеных кніг. Цягам гэтага часу сябры нашай творчай арганізацыі прадставілі чытачам больш як





Падчас з'езда.

Фота Кастуся Дробава.

1750 выданняў. І выніковасць працы зусім не залежыць ад месца жыхарства творцы: аўтары, якія жывуць у рэгіёнах, у гэты час працавалі не менш актыўна, чым сталічныя пісьменнікі. Разам з дзяржаўнай падтрымкай мы маем спонсарскую дапамогу, атрымалі і дазвол Прэзідэнта на тое, каб самім зарабляць грошы. Разумеем: не трэба спадзявацца адно на іншых, варта і самім працаваць лепш, навучыцца манетызаваць сваю дзейнасць. Магчыма, падумаць пра арганізацыю платных выступленняў, абмяркоўваць ганарары за выкананне твораў нашых аўтараў падчас канцэртаў. Вялікія спадзяванні маем на наш літфонд, які цяпер павінен працаваць з большым імпэтам.

Гэта асабліва павінна ўзрадаваць творцаў з рэгіёнаў: паводле старшыні, у наш час сталічныя пісьменнікі не маюць перавагі па колькасці выдадзеных кніг у параўнанні з іх калегамі з абласных арганізацый. Але ёсць тое, што актуальна і для адных, і для другіх: разуменне грамадствам значнасці кнігі, яе прыход да чытача.

Працяг на 4-й стар.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Марыю Захарэвіч. «Сваёй шматгадовай творчай дзейнасцю, нястомным служэннем тэатру Вы заваявалі любоў і павагу шматлікіх прыхільнікаў як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. Створаныя Вамі вобразы мудрых, самаахвярных жанчын з багатым унутраным светам па праве ўваходзяць у залаты фонд нацыянальнага мастацтва», — гаворыцца ў віншаванні. На думку Прэзідэнта, асаблівай павагі заслугоўвае самаадданая прыхільнасць да беларускай літаратуры, папулярызацыі якой Марыя Захарэвіч удзяляе шмат увагі ў тэатры, на радыё і канцэртных пляцоўках.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста Расіі Яўгена Міронава. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што творчасць артыста і ў далейшым будзе садзейнічаць развіццю культурнага супрацоўніцтва і ўмацаванню дружбы паміж народамі Беларусі і Расіі.

✔ Выдатны драматург, старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў удастоены ўзнагароды IV Рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія» за ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва.

✔ Выстаўка «Геній зямлі беларускай», прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, адкрылася ў Маскве, у Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Вернісаж прайшоў з аншлагам. Экспазіцыя, прадстаўленая Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, адлюстроўвае жыццёвы і творчы шлях паэта, распавядае пра дзяцінства і юнацтва, родных і сяброў, вучобу ў Ніжагародскай і Яраслаўскай гімназіях, Дзямідаўскім юрыдычным ліцэі. У цэнтры выстаўкі — аўтограф Максіма Багдановіча і партрэт творцы. Рэпрадукцыя вядомай работы Валянціна Волкава — лепшы мастацкі вобраз паэта падчас росквіту таленту.

✔ У Гродзенскім раёне абсталёўваецца новая рэзідэнцыя Дзеда Мароза, а ў якасці штабкватэры абраная хатка наглядчыка Аўгустоўскага канала каля шлюза Дамброўка. З 15 снежня па 15 студзеня разам са Снягуркай Дзед Мароз будзе штодня сустракаць гасцей, якіх чакаюць падарожжа па сцежцы казак і чарадзейны масток праз канал, удзел у майстар-класе па рукадзеллі ад Снягуркі ды інш.

✔ Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага «Пане Каханку» па аднайменнай п'есе Андрэя Курэйчыка пакажуць на гастролях у Чалябінску, Кургане і Магнітагорску (Расія). Гастролі беларускага тэатра — частка замежнай праграмы праекта «Вялікія гастролі — 2016» Федэральнага цэнтра падтрымкі гастрольнай дзейнасці Міністэрства культуры Расіі. Тэатр імя М. Горкага — адзіны ў Беларусі, які ўключаны ў замежную праграму гэтага праекта.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Слова творцаў



Фота Кастуся Дробава.

Пісьменнікам было што абмеркаваць.

**Мікалай Чаргінец — уладальнік шматлікіх узнагарод. У прыватнасці, летась з Белграда за кнігу «Аперацыя "Кроў"» ён прывёз літаратурную прэмію «Прохоровское поле». Творы пісьменніка перакладзены на многія замежныя мовы, у тым ліку на турэцкую. Падчас III з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Іванавіч наноў абраны старшынёй грамадскай арганізацыі. Аднагалосна.**

За гады кіраўніцтва СПБ праявіў сябе як выдатны арганізатар, пісьменнік, што здолеў асэнсаваць цэлую эпоху і сёння вельмі чулліва ставіцца да супярэчлівых рэалій свету.

— Мудрасць і жыццёвы досвед гэтага чалавека дазволілі з'яднаць пісьменнікаў краіны, зрабіць творчую арганізацыю аўтарытэтнай у грамадстве. Слова пісьменніка сёння пачутае, да асобы Мікалая Чаргінца ставяцца з павагай, — падкрэсліла ў выступленні на з'ездзе намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Алена Стэльмах.



Падчас галасавання на з'ездзе пісьменнікаў.

Мікалай Іванавіч дбае пра айчынную літаратуру, пра тое, каб добрая кніга была сапраўдным падарункам і для дарослых, і для дзяцей. Рупіцца ён і пра вырашэнне жыццёвых, сацыяльных праблем сяброў рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Саюз пісьменнікаў Беларусі пад старшынствам Мікалая Чаргінца можа стаць яшчэ больш уплывовай арганізацыяй. А слова, якое нясуць грамадству айчынныя творцы, і надалей будзе спрыяць міру і дабрабыту ў нашай краіне.

Падчас пленуму праўлення СПБ акрамя Прэзідыума былі выбраны намеснікі старшыні СПБ. Так, менавіта намеснікі, бо згодна са змяненнямі ў Статут СПБ паняцце «сакратар СПБ» заменена на «намеснік старшыні СПБ». Вылучылі чатырох прэтэндэнтаў: былых сакратароў СПБ Георгія Марчука, Генадзя Пашкова, а таксама Анатоля Крэйдзіча, які раней узначальваў Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ, і намесніка старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Алену Стэльмах. Па выніках галасавання членаў праўлення абралі Алену Стэльмах і Анатоля Крэйдзіча.

**Яна ЯВІЧ**

# Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі

1. АЛЕЙЧАНКА Юлія Аляксандраўна, паэтэса, загадчык аддзела паэзіі часопіса «Полымя»
2. АНЦУХ Ліліяна Фёдараўна, публіцыст, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці»
3. АЎРУЦІН Анатоль Юр'евіч, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная»
4. БАДАК Аляксандр Мікалаевіч, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»
5. БАНДАРЭНКА Вячаслаў Васільевіч, празаік, тэлежурналіст
6. ВЯЛІЧКА Уладзімір Паўлавіч, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры РБ, галоўны рэдактар часопіса «Белая вежа»
7. ГАЎРЫЛОВІЧ Уладзімір Мікалаевіч, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «СПБ»
8. ГІГІН Вадзім Францавіч, публіцыст, тэлевядучы
9. ГНІЛАМЁДАЎ Уладзімір Васільевіч, празаік, акадэмік НАН Беларусі
10. ГУСАЧЭНКА Тамара Іванаўна, паэтэса, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення ГА «СПБ», лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
11. ДАВІДОВІЧ Сяргей Фёдаравіч, паэт, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
12. ДАРАШЭВІЧ Уладзімір Мікалаевіч, публіцыст
13. ЗЭКАЎ Анатоль Мікалаевіч, паэт
14. КАЗЕКА Аляксандр Мікалаевіч, паэт, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «СПБ»
15. КАМЕЙША Казімір Вікенцьевіч, паэт, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
16. КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч, празаік, публіцыст, старшыня Мінскага абласнога аддзялення ГА «СПБ», дырэктар Выдавецкага дома «Звязда», лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», лаўрэат прэміі СНД «Зоркі садружнасці»
17. КАРЫЗНА Уладзімір Іванавіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры
18. КЕБІЧ Людміла Антонаўна, паэтэса, старшыня Гродзенскага аддзялення ГА «СПБ»
19. КРЭЙДЗІЧ Анатоль Мікалаевіч, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі
20. ЛАПЦЁНАК Ігар Мікалаевіч, перакладчык
21. ЛАТЫШКЕВІЧ Маргарыта Юр'еўна, паэтэса, рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць»
22. ЛІПСКІ Уладзімір Сцяпанавіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка»
23. МАЗГО Уладзімір Мінавіч, паэт, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі
24. МАРЦІНОВІЧ Аляксандр Андрэевіч, літаратурны крытык, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
25. МАРЧУК Георгій Васільевіч, празаік, драматург, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
26. МАЧУЛЬСКІ Уладзіслаў Антонавіч, генеральны дырэктар Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду
27. МЯТЛІЦКІ Мікалай Міхайлавіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
28. НАВУМОВІЧ Уладзімір Аляксандравіч, празаік, публіцыст, кандыдат філалагічных навук
29. ПАЗНЯКОЎ Міхаіл Паўлавіч, паэт, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення ГА «СПБ», лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў РБ
30. ПАШКОЎ Генадзь Пятровіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры
31. ПРАЎДЗІН Віктар Аляксандравіч, празаік, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
32. ПРЫГОДЗІЧ Зіновій Кірылавіч, празаік, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня», лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў РБ
33. САВЕРЧАНКА Іван Васільевіч, доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі
34. САЛАМАХА Уладзімір Пятровіч, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
35. СТЭЛЬМАХ Алена Анатольеўна, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі
36. СУЛЬЯНАЎ Анатоль Канстанцінавіч, празаік
37. ТРАХІМЁНАК Сяргей Аляксандравіч, празаік, доктар юрыдычных навук
38. ЧАРГІНЕЦ Мікалай Іванавіч, празаік, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат прэміі СНД «Зоркі садружнасці»
39. ЧАРОТА Аляксей Іванавіч, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»
40. ЧУДАЎ Валерый Іванавіч, празаік
41. ШАБОВІЧ Мікалай Віктаравіч, паэт, перакладчык, кандыдат філалагічных навук
42. ШАМЯКІНА Таццяна Іванаўна, празаік, публіцыст, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры БДУ
43. ШНІП Віктар Анатольевіч, паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»
44. ЮРКІН Іван Захаравіч, паэт, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі
45. ЯВІЧ Яна Паўлаўна, паэтэса, празаік

*Поўны спіс членаў праўлення СПБ будзе апублікаваны ў наступным нумары.*

Праекты

# Беларусь аб'ядноўвае краіны і культуры

Напрыканцы Года культуры Мінск чакае грандыёзная падзея: 22 снежня ў мастацкай галерэі народнага мастака Беларусі і СССР Міхаіла Савіцкага адбудзецца адкрыццё выстаўкі сучаснага жывапісу «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока». Арт-праект арганізаваны пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і пад афіцыйным патранатам ЮНЕСКА.

На выстаўцы будзе прадстаўлена восемдзесят мастацкіх твораў сучасных мастакоў рознай стылістычнай накіраванасці з дваццаці пяці краін: Беларусі, Расіі, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Аўстрыі, Іспаніі, Партугаліі і іншых. Большасць мастакоў плануюць прыехаць у Беларусь і асабіста прадставіць свае творы, расказаць пра ідэю і канцэпцыю. Некаторыя творцы наведаюць Мінск упершыню.

Арт-праект «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» скіраваны падкрэсліць аб'яднальную сілу мастацтва ў сучаснасці, паказаць у культуры, менталітэце нашых краін агульныя рысы і ў той жа час адрозненні. На прэс-канферэнцыі, прысвечанай выстаўцы, Паўнамоцны і Надзвычайны Пасол Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы Павел Латушка падкрэсліў:

— Праз выстаўку мы жадаем данесці, што трэба аб'ядноўвацца. Зразумела, жывём у складаным свеце і апошнім часам заўважаем, што з'яўляюцца падзяляльныя лініі. А дзякуючы аб'яднанню, тым больш творчаму, дзякуючы таму, што ў Мінск прыедуць мастакі з розных краін, мы акцэнтуем увагу на тым, што ў гэты неверагодна складаны час трэба шукаць згоду і мір, будаваць сумесна, а не разбураць.

**Вікторыя АСКЕРА**

Конкурсы

# Эксклюзіў для ёлкі

**Набліжаецца Новы год, а значыць, час для стварэння святочнага настрою і ўвасаблення творчых задум. Чаму б не знайсці цікавую пляцоўку для крэатыву і не паўдзельнічаць у конкурсе «Лепшае тэматычнае ўпрыгажэнне для ёлкі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны»?**

Вядомая далёка за межамі Беларусі ўстанова запрашае самых творчых і актыўных, аматараў хэндмэйду, дызайнераў стварыць адмысловае ўпрыгажэнне, якое адлюстроўвала б тэматыку музея. Можна выкарыстоўваць любыя віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Каб сёлета ёлка стала не проста яркай, а асаблівай ды сімвалічнай.

Магчыма, вашы творчыя знаходкі перасягнуць чаканні журы, якое абавязкова ацэніць мастацкі ўзровень работ: арыгінальнасць, дызайн, эстэтычнасць, сімвалізм, а таксама тэхніку выканання. Работы прымаюцца ў музей да 16 снежня. Вынікі творчага спаборніцтва падвядуць 23 снежня. У гэты дзень удзельнікаў конкурсу запросяць у музей, дзе яны ўсе разам упрыгожаць ёлку эксклюзіўнымі цацкамі. Фота конкурсных работ і іх аўтараў будуць апублікаваны на сайце музея.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Прэзентацыі

# Пра Скарыну — папулярна

Беларускі першадрукар Францыск Скарына — адзін з галоўных культурных герояў будучага года. Маленькія грамадзяне нашай краіны могуць даведацца пра яго жыццё і кнігавыдавецкую дзейнасць дзякуючы трохтомнаму выданню, якое на пачатку восені пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Аўтар кнігі — намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, вядомы скарыназнаўца Алесь Суша.

Яркае, цікавае выданне для дзяцей патрабуе не менш запамінальнай прэзентацыі — менавіта такой атрымалася сустрэча аўтара з шасцікласнікамі 1-й мінскай гімназіі. Падчас вікторыны дзеці абмеркавалі асаблівасці кнігі і ўзгадалі галоўныя факты з біяграфіі Францыска Скарыны, а потым пазнаёміліся са стваральнікамі выдання. Па словах навуковага рэдактара Ларысы Язьковіч, сучасная папулярная кніга, прысвечаная Скарыне, аказалася вельмі запатрабаванай, бо большая частка тыражу ўжо патрапіла ў бібліятэкі і на паліцы чытачоў.

Алесь Суша жартам прапанаваў уявіць Францыска Скарыну як… таксіста і сакрэтнага агента!.. А таксама падрабязна адказаў на пытанні, якія тычыліся пакручастага лёсу першадрукара. Аўтар заўважыў, што кніга будзе цікавая не толькі дзецям і іх бацькам, але і аўтарытэтным даследчыкам, бо змяшчае новыя факты і ўнікальныя ілюстрацыі, якія ніколі не друкаваліся.




Не кожнаму гісторыку ці літаратуразнаўцу пашанцавала на ўласныя вочы пабачыць кнігі Скарыны — затое маленькія чытачы дзякуючы новаму выданню з серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя» могуць уважліва разгледзець цікавыя старонкі старадрукаў. У кнізе выкарыстана каля трохсот каляровых ілюстрацый, сярод якіх партрэты Скарыны, фотаздымкі гарадоў, дзе вучыўся і працаваў беларускі першадрукар.

На прэзентацыю ў Нацыянальную бібліятэку завітаў адзін з самых дасведчаных скарыназнаўцаў Георгі Галенчанка, які акрэсліў культурную і сацыяльную сітуацыю XVI стагоддзя, а таксама прапанаваў напісаць кнігу «Што мы яшчэ не ведаем пра Скарыну». Музычным падарункам для наведвальнікаў стала выступленне ансамбля старадаўняй і сучаснай музыкі *«Brevis»*. Напрыканцы школьнікі паспрабавалі вызначыць, чым падобныя герой і аўтар энцыклапедыі. Цікавасцю да кнігавыдання, любоўю да Полацка і, вядома, да кнігі!

**Юлія ШПАКОВА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**3 снежня** — *на літаратурнае мерапрыемства, прысвечанае 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, з удзелам пісьменніцы Маргарыты Латышкевіч у СШ № 77 (вул. Крупскай, 10). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**5 снежня** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Тамары Бунта «Дзяўчынка з вішнёвага завулка» ў СШ № 10 (зав. Бранявы, 15). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**6 снежня** — *на вечар памяці М. Багдановіча з удзелам пісьменнікаў, які адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 21). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**6 снежня** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «У вянок Максіму Багдановічу» ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**7 снежня** — *на літаратурнае свята, прымеркаванае да Года культуры, у Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт (вул. Савецкая, 18, актавая зала). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**7 снежня** — *у літаратурную гасцёўню «Верасок» пры дзіцячай бібліятэцы № 16 (вул. Якубоўскага, 32) на прэзентацыю кнігі паэта Генадзя Пашкова «Вясёлыя канікулы». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**7 снежня** — *на свята дзіцячай кнігі выдавецтва «Народная асвета» ў гімназіі г. Асіповічы (вул. Сташкевіча, 35) з удзелам пісьменнікаў аддзялення. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**8 снежня** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 14 імя Ф. Багушэвіча (вул. Прытыцкага, 42) з удзелам пісьменніка Уладзіміра Мазго. Пачатак у 11.30.*

**8 снежня** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «Я не самотны, я кнігу маю…» ў публічную бібліятэку № 8 імя Максіма Багдановіча (вул. Даўгабродская, 12/2). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**8 снежня** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «Паэт, асветлены зоркай», прысвечаную 125-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, у Цэнтральную мінскую гарадскую бібліятэку імя Я. Купалы. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**9 снежня** — *на творчы конкурс чытальнікаў мастацкіх твораў сярод пракурорскіх работнікаў «Слаўтуць сыны Беларускай зямлі», які адбудзецца ў Белдзяржуніверсітэце культуры і мастацтваў (вул. Рабкораўская, 17, аўд. 123). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 снежня** — *на майстар-клас у рамках вочна-завочнай школы «Са-Творчасць» пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі з удзелам Бажэны Мацюк, Віктара Кажуры, Ірыны Карнаухавай у гімназіі № 31 г. Мінска (вул. Мазурава, 6). Пачатак а 10-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**6 снежня** — *на ток-шоу «Адгадкі на зімовыя загадкі» з удзелам дзіцячых пісьменнікаў Галіны і Сяргея Трафімавых у Аршанскую бібліятэку імя У. Корбана (вул. Заднепроўская, 8). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**8 снежня** — *на творчую сустрэчу з удзелам дзіцячых пісьменнікаў Галіны і Сяргея Трафімавых у Аршанскі педагагічны каледж (вул. Пушкіна, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**6 снежня** — *на творчую сустрэчу з гродзенскімі пісьменнікамі ў Гродзенскі абласны дом інвалідаў (Гродзенскі раён, в. Пушкары). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**6 снежня** — *на творчую сустрэчу з паэтам Дзмітрыем Радзівончыкам з цыкла «Увага: паэзія!» у СШ № 28 г. Гродна (вул. Брыкеля, 11). Пачатак у 11.50.*

**7 снежня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева (Мінская вобласць, г. Барысаў, вул. Чапаева, д. 3). Пачатак а 14-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Невядомы твор Герберта Уэлса знойдзены ва ўніверсітэце штата Ілінойс (ЗША). Тэкст патрапіў у рукі рэдактара выдання «Стрэнд» Эндру Гуллі, які працаваў з архіўнымі дакументамі пісьменніка. У пошуках яму дапамагаў адмыслова наняты асістэнт. У выніку спецыялісты выявілі рукапіс пад назвай «Столь з прывідамі». Пасля аналізу было высветлена, што навела Уэлса створаная ў 1890-х гадах. У той час адбылася й публікацыя аднаго з найбольш вядомых раманаў фантаста «Машына часу». «Стрэнд» апублікаваў навелу на гэтым тыдні, згодна са сваёй старой традыцыяй друкаваць містычныя гісторыі ў восенькі перыяд.

• Верш Анны Франк прадалі на аўкцыёне ў галандскім горадзе Харлема за 140 000 еўра. Дванаццацігадовая дзяўчынка напісала яго для сяброўкі Жаклін у сакавіку 1942 года. Пакупнік заплаціў у тры разы больш за пачатковы кошт і пажадаў застацца невядомым. У васьмідзясятых гадах была прададзеная перапіска Анны Франк з аднагодкамі з ЗША. Тады за лот заплацілі 165 000 долараў. Новы лот быў выстаўлены ад імя сястры адрасата Анны — сам адраст пайшоў з жыцця 10 год таму. Па словах жанчыны, у яе захоўваецца мноства рукапісаў Франк, аднак прадаваць іх яна не збіраецца.

• У Маскве назвалі лепшыя кнігарні. З вялікім адрывам перамог «Біблія-Глобус», які стаў лідарам апытання з самага пачатку. Яго абралі 24% удзельнікаў апытання. На другім месцы — сетка «Чытай-горад» з 17%, а трэцім стаў Дом кнігі на Новым Арбаце, які набраў 13%. Галасаванне праводзілася з 20 кастрычніка па 16 лістапада, удзел у ім узялі 205 906 чалавек. Гэтыя лічбы будуць улічвацца падчас падвядзення вынікаў конкурсу «Лепшая кнігарня Масквы». Спаборніцтвы кніжных крамаў па папулярнасці сярод пакупнікоў праводзяцца ўжо дзясяты раз, а першая акцыя распачалася ў 2006 годзе. Варта заўважыць, што эксперты ўлічваюць не толькі меркаванні пакупнікоў, але і мноства профільных крытэрыяў, пачынаючы ад асартыменту і заканчваючы ветлівасцю прадаўцоў ды ўзделам крамы ў грамадскім жыцці горада.

• *Apple* абвясціла пра тое, што ў недалёкай будучыні ў свет выйдзе папяровая кніга, якая распавядзе пра ўнёсак Стыва Джобса ў распрацоўку прылад, якія дагэтуль карыстаюцца папулярнасцю ў кліентаў. Выданне мусіць быць шыкоўна ілюстраванае: анансавана больш за чатырыста фотаздымкаў. Таксама кніга распавядзе пра ўнёсак дызайнераў ды іншых спецыялістаў *Apple* ў ідэі Джобса. Да афармлення будучай кнігі прыцягнулі вядомага ў свеце фотамастака Цукермана. З інфармацыі, прадстаўленай *Apple*, можна зрабіць выснову, што кніга будзе прысвечаная нават не столькі Стыву Джобсу, колькі дасягненням кампаніі ў галіне дызайну. І абыдзецца зацікаўленым чытачам нятанна: у цвёрдай вокладцы — каля трохсот долараў, у мяккай — дзвесце.

## Ідзе падпіска на I паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 30 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 10 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 2 р. 80 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 10 к. | 63880 |

## НОВЫХ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ!

**Трэці з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі віталі самыя розныя творчыя арганізацыі з многіх краін свету.**

Вось што напісала кіраўніцтва Пакістанскай Акадэміі літаратуры: «Гісторыя паказвае, што Пакістан і Беларусь маюць цесныя сувязі, але ў апошнія гады на ўсіх узроўнях узаемасувязі паміж нашымі краінамі становяцца мацнейшымі, больш узаемнаветлівымі з кожным днём». І далей: «… намаганні, зробленыя Саюзам пісьменнікаў Беларусі, будуць, несумненна, дапамагаць развіваць ужо пачатыя ўзаемасувязі паміж дзвюма краінамі, садзейнічаць міру і дабрабыту ў нашых добрасуседскіх краінах».

Пісьменнікаў Беларусі віталі калегі з Расійскай Федэрацыі — пісьменнікі Чачні, Чувашыі, Калмыкіі, Марый Эл і іншых рэгіёнаў братэрскай нам краіны. Галоўную за пяцігодку творчую падзею беларускіх літаратараў адзначылі сваімі цёплымі зваротамі пісьменніцкія саюзы Таджыкістана, Казахстана. Паэт і публіцыст з Казахстана наша зямлячка Любоў Шашкова прывезла ў падарунак нумар часопіса «Простор», прысвечаны беларускай літаратуры. У ім са сваімі новымі творамі выступаюць Мікола Мятліцкі, Юлія Алейчанка, Генадзь Аўласенка, Алесь Бадак, Алена Стэльмах, Алег Жадан. У аглядным артыкуле «Беларуская літаратура сёння» — імёны і творы Міколы Чаргінца, Анатоля Андрэева, Леаніда Левановіча, Уладзіміра Гніламёдава, Генадзя Пашкова, Казіміра Камейшы, Міхася Башлакова, Георгія Марчука, Васіля Ткачова, Івана Саверчанкі, Алеся Марціновіча і іншых майстроў прыгожага пісьменства.

У пярэдадзень з'езда на адрас Саюза пісьменнікаў Беларусі прыйшоў ліст ад старэйшыны пісьменнікаў Кабардзіна-Балкарыі паэта Саліха Гуртуева. Прывітальную тэлеграму даслаў і член Саюза пісьменнікаў Беларусі празаік і драматург Ато Хамдам, які жыве і працуе ў Душанбэ. Гасцямі з'езда былі пісьменнікі з Расійскай Федэрацыі, Літвы, Латвіі, Казахстана і іншых краін свету.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Нашчадкі ды сутворцы

## Летапіс пісьменніцкай арганізацыі: удакладніць і працягваць

Мікалай Чаргінец адзначыў, што сёння творчасць у літаратуры ўспрымаецца хутчэй як хобі, а не прафесія, таму стаяць пытанні пра забеспячэнне пісьменнікаў пенсіямі, вышэйшымі за мінімальныя, пра выдзяленне творцам арэнднага жылля. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі адзначыў, што патрэбна больш увагі надаваць маладым аўтарам, праводзіць для іх семінары, садзейнічаць выданню кніг, а самім аўтарам больш актыўна сустракацца з чытачамі, ладзіць аўтографсесіі ў кнігарнях.



*Выступае Мікалай Чаргінец.*

Тэму, зададзеную Мікалаем Чаргінцом, працягвала міністр інфармацыі Беларусі **Лілія Ананіч:**

— Штогод у нашай краіне выходзіць звыш 10 тысяч найменняў кніг тыражом амаль 22 мільёны экзэмпляраў. Негледзячы на тое, што гэта прадстаўнічыя лічбы, трэба прызнаць, што дзесяць гадоў таму мы мелі тыражы кніг, якія выдаваліся ў краіне, у два разы большыя. У апошнія гады вызначылася ўстойлівая тэндэнцыя па павелічэнні выдання кніг на беларускай мове: гэта ў сярэднім 1000 — 1200 назваў у год тыражом 4 мільёны экзэмпляраў. Літаратура на беларускай мове займае больш за 11 працэнтаў у агульнай колькасці выпушчанай беларускімі выдавецтвамі літаратуры і набліжаецца па сваіх тыражных характарыстыках да 17 — 20 працэнтаў у сукупным тыражы. Міністэрства інфармацыі адказвае за рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі ў галіне кнігавыдання. Таму адзін з найважнейшых і прыярытэтных кірункаў дзейнасці беларускіх выдавецтваў — выданне мастацкай, у тым ліку дзіцячай літаратуры беларускіх аўтараў. Колькасць выпушчаных за апошнія 5 гадоў кніг літаратурна-мастацкага кірунку сёння вызначаецца ў межах 1500 — 2000 найменняў у год. Кожная дзясятая кніга — літаратурна-мастацкая аўтарскі твор. Кніг беларускіх пісьменнікаў выдаецца ў нашай краіне прыкладна да 800 назваў штогод. Міністэрства працуе ў цесным узаемадзеянні з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. У выкананне даручэння кіраўніка дзяржавы з 2012 года штогод 10 — 12 кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў выдаюцца пры поўнай дзяржаўнай падтрымцы і прадстаўляюцца для камплектавання фондаў у публічныя бібліятэкі нашай краіны і такім чынам знаходзяць свой шлях да чытача.

Беларускія пісьменнікі ствараюць мастацкі летапіс гісторыі сваёй радзімы, таму на іх творах трэба выхоўваць моладзь, падкрэсліў першы намеснік міністра адукацыі Беларусі **Вадзім Богуш:**

— У вучэбных праграмах па рускай і беларускай мове і літаратуры ёсць раздзелы, якія прапануюць вучням азнаёміцца з творчасцю сучасных пісьменнікаў Беларусі. Мы пастаянна супрацоўнічаем з Саюзам пісьменнікаў Беларусі па падрыхтоўцы падручнікаў і кніг серыі «Школьная бібліятэка».

Міністэрства культуры не адстае па зацікаўленасці ў працы з пісьменнікамі і гатовае ісці насустрач у вырашэнні пытанняў, што падкідвае жыццё: напрыклад, пісьменнікі голас быў пачуты, калі адбываўся працэс рэарганізацыі бібліятэчнай сеткі. Міністр культуры Беларусі **Барыс Святлоў** адзначыў:

— Сённяшні з'езд стаіць у шэрагу найбольш важных збораў творчых работнікаў нашай краіны. Упэўнены, што з'езд стане штуршком для далейшага развіцця беларускай літаратуры і культуры ўвогуле. Для пісьменнікаў стане стымулам для новых здзяйсненняў, а для нас — крыніцай інфармацыі пра штодзённыя патрэбы творчай супольнасці. Установы Міністэрства культуры з'яўляюцца найбольш актыўнымі спажыўцамі працы літаратараў: бібліятэкі, літаратурныя музеі, установы адукацыі ў сферы культуры і іншыя. У прыватнасці, у мінулым годзе публічныя бібліятэкі папоўніліся сацыяльна значнай літаратурай на суму больш за 800 тысяч дэнамінаваных рублёў.

З'езд і патрэбны для таго, каб прадстаўнікі розных зацікаўленых ведамстваў ведалі, з чым сутыкаецца пісьменніцкая супольнасць. У эпоху інфармацыі, калі жыццёвыя працэсы паскараюцца, часам сапраўды не хапае імгненняў жывых зносінаў, каб пачулі і зразумелі.

Напрыклад, адно з вострых пытанняў, што паўстала на з'ездзе, — камунікацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі са СМІ. Таму што гэта той дзейсны сродак, што можа паўплываць на прасоўванне творчых асоб, іх грамадскі статус, што ў выніку паспрыяла б больш простаму і хуткаму прыходу кніг да чытачоў. Гаворка пра прысутнасць пісьменнікаў у публічнай прасторы, у прыватнасці ў СМІ. Для таго, каб кніга стала з'явай у грамадстве, патрэбная ўвага крытыка да яе ці журналіста да асобы творцы. Недахоп гэтай увагі можа ў далейшым адбіцца на выхаванні маладых пакаленняў, а іх важна зацікавіць.



*Фота Кастуся Дробава.*

*У кулуарах з'езда.*

Старшыню падтрымалі і прадстаўнікі абласных аддзяленняў: кнізе і творам членаў Саюза пісьменнікаў недастаткова ўвагі з боку крытыкаў, нават газеты «Літаратура і мастацтва». Пра гэта, у прыватнасці, казалі кіраўнік Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч і Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч. Пра тое, што можна палепшыць працу са СМІ, казала Людміла Кебіч (старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ). Жаданне бачыць у мастацкай перыёдыцы больш надрукаваных твораў членаў Віцебскага абласнога аддзялення выказала яго кіраўнік Тамара Краснова-Гусачэнка. Вострая крытыка ў адрас СМІ прагучала і з вуснаў Міхася Пазнякова, старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Клопаты зразумелыя: з'езды і патрэбны менавіта для таго, каб паляпшаць шляхі зносін, актывізаваць камунікацыю паміж пісьменнікамі і крытыкамі.

У пісьменнікаў наладжаны сувязі са сваімі калегамі (і нават крытыкамі) з іншых краін. Напрыклад, за пераклады твораў казахскага паэта Абая на беларускую Мікола Мятліцкі быў пасвячоны ў «аксакалы» і нават атрымаў у падарунак каларытны халат, у якім вылучаўся сярод іншых пісьменнікаў. Вылучаўся яшчэ і палымянай прадмовай: пра тое, што ёсць літаратуры шмат, рознай, іншай, цікавай, якая можа ўзбагачаць і навучаць. Але ёсць досвед літаратурнай творчасці, здабыты пакаленнямі беларускіх пісьменнікаў, — дзеля розуму, адукацыі, думак і разваг нашчадкаў, які дае адказы на ўсе пытанні, што спараджае жыццё. На тым і стаім…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

# Для душы і дзеля спраў

**Уладзіслаў ЦЫДЗІК, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі 5-га склікання:**

— Сапраўды, з'езд — гэта сустрэча для душы. Тут сабралася эліта, творчая інтэлігенцыя, якая сёння з'яўляецца флагманам культуры нашага слова, нашых паводзін, ладу жыцця. Гэта людзі, якія сваёй творчасцю, уменнямі ўсхваляюць наш народ, краіну. З'езд абавязкова патрэбен — тут вызначаюцца кірункі далейшага развіцця пісьменніцкай справы. Ганаруся і культурай нашага грамадства, тым, што робіцца для таго, каб краіна была прыгожая. Значыць, і слова павінна быць адпаведным, яно мусіць адлюстроўваць сапраўдную духоўнасць кожнага з нас. Хацелася б, каб Саюз пісьменнікаў Беларусі аб'ядноўваў сапраўды выдатных творцаў, каб тут ззялі такія зоркі, як Купала, Колас, Броўка, каб нараджаліся новыя Ясеніны. Гэта акрыляе, натхняе на працу.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ, празаік, паэтэса, тэатральны і музычны крытык:**

— Да з'ездаў саюза ў нас рознае стаўленне. Нехта ўспрымае іх як водгулле савецкага часу, але мне падаецца, што на гэтую з'яву можна паглядзець і па-іншаму. Думаецца, з'езд цікавы магчымасцю сустрэцца з даўнімі знаёмымі, пісьменнікамі, якіх я даўно ведаю, але якія жывуць не ў Мінску. Гэтых сувязей, кантактаў, нягледзячы на перапіску па электроннай пошце і сяброўства праз сацыяльныя сеткі, у нас не так і многа. Заўсёды больш прыемна пабачыцца асабіста. Хацелася б, каб мы абмяркоўвалі ролю пісьменніка ў грамадстве, каб яна была больш важкая, прыкметная, каб статус творцы быў высокі і ў маральным, і ў матэрыяльным сэнсе. Мне падаецца, што вось гэтага ўплыву пісьменніка на светаадчуванне, сістэму каштоўнасцей грамадства цяпер не хапае. Ёсць і пытанне матэрыяльнага заахвочвання аўтараў. Сёння пісьменнік можа займацца творчасцю толькі ў вольны ад працы час. Літаратурная дзейнасць не ўспрымаецца як прафесія, таму і ацэнка працы — сімвалічная. А прафесійная творчасць пры такім стаўленні ператвараецца ў самадзейнасць. У статусе і матэрыяльнай забяспечанасці нашы творцы прайграюць калегам з іншых краін. Зрэшты, аўтараў у Беларусі не так і шмат, таму вырашэнне ганарарнага пытання наўрад ці паўплывае на эканоміку краіны.

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, дзіцячая пісьменніца, тэатральны крытык, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя»:**

— Камунікацыя з пісьменніцкай супольнасцю ў нас вядзецца няспынна. З'езд — гэта не нейкая надзвычайная падзея ў нашай працы. Дзверы рэдакцыі часопіса «Полымя» заўсёды адчыненыя для аўтараў, многія з іх — сябры саюза. Штодня вядзём дыялог з пісьменнікамі, супрацоўнічаем, наладжваем творчую камунікацыю, але нельга цалкам аспрэчваць карысць правядзення з'ездаў. Тут хутчэй можна вырашыць арганізацыйныя пытанні.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# ПАСТАНОВА

## III з'езда грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі»

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад старшыні грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі» Чаргінца М. І., III з'езд творчай арганізацыі адзначае:

III з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі праходзіць напярэдадні знакавай падзеі агульначалавечага значэння. 6 жніўня 1517 года ў Празе наш зямляк, слаўны сын беларускага народа з Полацка, мысліцель, вялікі асветнік, дзеяч эпохі Адраджэння Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу дзеля «пашырэння хрысціянскай веры» і «для наўчанне грамаце паспалітага люду» — «Псалтыр» — малітоўнік, зборнік песнапенняў на кожны дзень. З 1517 па 1520 гг. Скарына выдаў 22 кнігі «Бібліі», ён уласнаручна вырабляў літары, заснаваў станок для кнігадрукавання, сам пісаў прадмовы і пасляслоўі да сваіх выданняў, аздабляў першадрукі малюнкамі, змяшчаў на палях вершы і прытчы.

Сёння мы напярэдадні вялікага свята — 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Гэта падзея накладвае асаблівую адказнасць на ўсіх дзеячаў нацыянальнай культуры, у тым ліку на пісьменнікаў, майстроў мастацкага слова. Павышаецца адказнасць за слова надрукаванае, напісанае, за слова сказанае. Як ніколі, узрастае неабходнасць дабівацца запатрабаванасці кнігі, узмацнення яе ролі і ўплыву ў грамадстве, пашырэння выхаваўчага значэння кніжнай прадукцыі, паглыблення зместу літаратуры, яе пачуццёвага эмацыянальнага ўздзеяння на чытача і слухача. Кніга ў дадатак павінна быць належным чынам афармлена, быць маляўнічай, чытэльнай, з густам і пафасам эстэтычна здзейсненым запамінальным выданнем, стаць даступнай для чытача па цане і якасці.

III з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі з поўнай адказнасцю канстатуе: у краіне інтэнсіўна і дабратворна развіваецца літаратурны рух, сфарміравана прыязнае творчае асяроддзе пісьменнікаў, адбываецца заўважная выкрышталізацыя сур'ёзных талентаў. Ідзе жывая творчасць таленавітых мас, фарміруецца яркая, пераканаўчая плеяда маладых творцаў у паэзіі, прозе, драматургіі. Пры гэтым творцы на ніве мастацкага слова выдатна разумеюць спецыфіку і задачы мастацкага спасціжэння рэчаіснасці: лірыку — як самавыражэнне разбуджанай душы, растрывожанага сэрца, прозы з яе маштабнасцю, эпічным поглядам на рэчы і з'явы і драмы — як асновы драматычнага дзеяння ў поўны час і ў поўны момант. Літаратура заўсёды з'яўлялася выразнікам болю і трывог, надзей і розуму, «валадаром дум народных», ледзь не адзіным мастацкім адбіткам душы народа. Слова — самы пластычны матэрыял, які належыць чалавечаму духу.

Сімвалічна, што наш пісьменніцкі форум праходзіць у дні святкавання 125-годдзя з дня нараджэння генія беларускага народа Максіма Багдановіча, напярэдадні 135-годдзя волатаў беларускага слова Купалы і Коласа.

Пісьменнік можа і павінен працягваць разам са сваім народам, разумеючы яго, падзяляючы яго погляды на жыццё, спасцігаючы яго думкі, запатрабаванні, адлюстроўваючы у творчасці інтарэсы і мары народа.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і надалей будзе настойліва дабівацца кансалідацыі ўсіх творчых сіл на карысць развіцця роднай краіны.

Беларуская літаратура — гэта народная трыбуна, кафедра, лабараторыя, у якой выспяваюць значныя ідэі, што могуць авалодаць масамі. Разам з беларускім народам наша літаратура прайшла доўгі і складаны шлях развіцця. Беларускае слова выяўляла духоўны стан нацыі, заклікала да свабоды, выводзіла селяніна-беларуса на шырокую дарогу будаўніцтва нашай гаспадаркі, развіцця роднага краю, фарміруючы і ўмацоўваючы дух калектыўнасці, праслаўляючы самастойны выбар. Устанаўленню незалежнасці Беларусі ў многім садзейнічае тое, то беларускае слова — вуснае і друкаванае — захоўвалася на працягу многіх стагоддзяў, перадавалася з пакаленняў у пакаленне.



Фота Кастуся Дробава.

Класікі беларускай літаратуры пакінулі нам і іншыя, не менш важныя ўрокі: 1) самаадданасць працы на карысць Бацькаўшчыны, прыклады таго, як 2) неабходна пазбаўляцца ўсяго дробязнага і мітуслівага ў імя будучыні, 3) жыць адным жыццём з народам, 4) быць выразнікам яго спадзяванняў. Асаблівая роля тут належыць літаратурна-мастацкай крытыцы, якая павінна дапамагаць выпрацоўваць эстэтычны густ у чытачоў, ставіць «заслон» нізкапробнаму, безгустоўнаму, не апускацца да алілуйшчыны і кампліментаршчыны.

III з'езд нашай творчай арганізацыі пераканаў, што мы аднадумцы ў тым, як нам трэба працаваць дзеля далейшага росквіту роднай Беларусі.

Мы цалкам падтрымліваем палітыку, якую праводзіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

Толькі самаадданая стваральная праца, у тым ліку і на літаратурнай, творчай ніве, з'яўляецца падмуркам таго, што Рэспубліка Беларусь, застаючыся незалежнай і суверэннай дзяржавай, праводзячы самастойную згуртаваную палітыку, з кожным годам будзе ўсё больш квітнець і багацець.

Глыбокім пацвярджэннем сказанага можа служыць дзейнасць ГА «СПБ» ад з'езда да з'езда. Арганізацыя ўмацавалася арганізацыйна, стала заўважнай у творчых адносінах. За справаздачны перыяд выдадзена адна тысяча дзевяцьсот дзесяць найменняў індывідуальных і калектыўных кніг.

У выданні мастацкай літаратуры найлепшым чынам зарэкамендавалі сябе дзяржаўныя выдавецтвы: «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», «Беларусь», «Беларуская энцыклапедыя», «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», а таксама прыватныя выдавецтвы «Харвест», «Чатыры чвэрці». На сёння выдадзена: 91 том «Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў Беларусі», 35 кніг — «Бібліятэчкі сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай літаратуры».

Праца пісьменніка ў краіне адпаведным чынам заахвочваецца і падтрымліваецца. Мы адчуваем падтрымку ў выданні сацыяльна значнай літаратуры. Па магчымасці Саюз пісьменнікаў Беларусі выдзяляў дзесяць стыпендый маладым літаратарам. Мы былі ініцыятарамі і сталі выдаўцом часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая вежа». З актыўным удзелам ГА «СПБ» увайшло ў практыку правядзенне Дзён беларускага пісьменства, конкурсаў, «круглых сталоў», фестываляў паэзіі, традыцыйных свят кнігі. Працуюць творчыя секцыі. Заўважна акрэсліўся прыток маладых пісьменнікаў, усё гучней чуваць іх голас.

14 кастрычніка ў Маскве, у Дзелавым і культурным цэнтры Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, прайшоў II з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. У рабоце ўзялі ўдзел 70 дэлегатаў ад Саюза пісьменнікаў Беларусі. З'езд засведчыў далейшыя шляхі актыўнага супрацоўніцтва пісьменнікаў Беларусі і Расіі.

Праводзяцца «Урокі мужнасці» ў Доме літаратара. Творчасць пісьменнікаў адзначаецца Нацыянальнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, прэміямі абласных аддзяленняў. Праца шэрагу пісьменнікаў за справаздачны перыяд адзначана ордэнамі і медалямі Рэспублікі Беларусь, граматамі Савета Міністраў, прэміяй СНД "Зоркі садружнасці", Прэміяй Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, пісьменнікі ўдастоены Падзякі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, атрымалі ганаровыя званні.

Разам з тым у дзейнасці ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» ў справаздачны перыяд ёсць недапрацоўкі, нявыкарыстаныя магчымасці. Кніга ўсё яшчэ вельмі цяжка даходзіць да чытача. Тыражы кніг і літаратурных выданняў нізкія. Саюз пісьменнікаў Беларусі не знайшоў яшчэ поўнага паразумення з кнігагандлем. Недастатковая праца з бібліятэкамі, школамі, ВНУ па прапагандзе кнігі, твораў пісьменнікаў. Неабходна пашырыць межы прапаганды беларускай кнігі. Адсутнічаюць абмеркаванні кніг калег па пяру, дыскусіі, недастаткова арганізуюцца прэзентацыі творчых вечароў. Патрабуецца далейшая настойлівая праца Праўлення САБ і яго апарату па ўмацаванні аўтарытэту пісьменніцкай арганізацыі ў грамадстве.

## З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ ПАСТАНАЎЛЯЕ:

**1.** Прызнаць работу Прэзідыума ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» за перыяд ад з'езда лістапада 2011 года да з'езда лістапада 2016 года здавальняючай.

**2.** Прэзідыуму ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» прыкласці ўсе намаганні для яшчэ большага ўмацавання аўтарытэту і ўплыву ў грамадстве значэння працы пісьменніка, удзелу літаратараў у ідэйна-выхаваўчым працэсе, культурным будаўніцтве ў дзяржаве, ва ўмацаванні і ўдасканаленні маральна-духоўнага патэнцыялу краіны.

**3.** Прэзідыум ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» дабівацца стварэння ў пісьменніцкім асяроддзі атмасферы ўзаемнага даверу, атмасферы ўзаемападтрымкі і самакрытыкі.

**4.** Праўленню ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» наладзіць узаемавыгадныя сувязі з кнігагандлем. Дабівацца, каб «Саюздрук» эфектыўна працаваў ва ўсіх рэгіёнах краіны, каб кнігі беларускіх аўтараў маглі трапіць у кожны раён усіх абласцей.

5. Прэзідыуму ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» дзеля прапаганды літаратуры наладзіць шэраг выездаў з мэтай правядзення літаратурных вечароў па ўсёй Беларусі.

6. Праўленню СПБ прадоўжыць практыку ўсталявання штогадовых стыпендый маладым творцам. Удакладніць і зацвердзіць новыя Палажэнні аб стыпендыях для маладых аб умовах правядзення літаратурных конкурсаў.

7. Літаратурным выданням, сузаснавальнікам якіх з'яўляецца ГА «СПБ», часопісам: «Маладосць», «Полымя», «Нёман», «Бярозка», «Вясёлка», газеце «ЛіМ» дабівацца разнастайнасці апублікаваных матэрыялаў, пашырэння аўтарытэту сярод моладзі.

8. Штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» скіраваць большую ўвагу на публікацыю матэрыялаў літаратурнага характару, публікацый прозы, паэзіі, літаратурна-мастацкай крытыкі, на арганізацыю дыскусій, «круглых сталоў», меркаванняў мастакоў слова.

9. Пісьменнікам звярнуць асаблівую ўвагу на пашырэнне тыражоў кніг. Дабівацца, каб кнігі даходзілі да шырокага кола чытачоў.

10. Аддзяленням ГА «СПБ» шырэй арганізоўваць працу з маладымі літаратарамі, працягваць ствараць літаратурныя студыі для моладзі, дапамагаць у выданні іх твораў.

11. Арганізаваць у 2017 годзе двухдзённы Семінар маладых пісьменнікаў.

12. У сваёй дзейнасці Саюзу пісьменнікаў Беларусі актывізаваць супрацоўніцтва з мясцовымі органамі ўлады, з творчымі саюзамі і грамадскімі арганізацыямі.

# 0+ Бібліяфіл з пялюшак

**Дзіцяці яшчэ няма года, а ў яго жыцці ўжо з'яўляюцца першыя літаратурныя творы — калыханкі, пацешкі, вясёлыя вершыкі. У кошык з цацкамі трапляюць кніжкі-картонкі, кніжкі для купання, нават кніжкі-цацкі, а на паліцы з дарослымі выданнямі знаходзяць месца вельмі папулярныя сёння кніжкі-карцінкі. Калі ж далучаць дзяцей да чытання? Вядома, чым раней — тым лепш!**



## ПАСЛУХАЦЬ КНІГУ

Немаўляты ўжо ў шэсць месяцаў пачынаюць успрымаць гукі роднай мовы. З гэтага часу не толькі можна, але і вельмі карысна чытаць ім першыя кнігі. Чытанне трэніруе здольнасць слухаць і запамінаць, паскарае развіццё маўленчых здольнасцей. Нават калі дзіця яшчэ не можа зразумець і асэнсаваць пачутае, яно адкрывае для сябе разнастайнасць свету. Ого — кнігу можна не толькі гартаць ці кусаць, але і разглядаць, чытаць і слухаць!

Вядома, дзеці да года не могуць доўга засяроджваць увагу, таму чытаць трэба па некалькі хвілін у дзень, але часта. Неабавязкова кнігу дачытваць, можна спыніцца на старонках, якія зацікавілі найбольш. У дадатак да чытання варта абмяркоўваць ілюстрацыі. Што робяць чалавечкі? Якога колеру кветкі? Такія размовы дазваляюць засвоіць новыя словы і вучаць разумець іх значэнне з кантэксту. Для зусім маленькіх дзетак кніга — нагода для размовы: можна нешта прыдумаць ад сябе, адгадаць і агучыць рэакцыю дзіцяці на прачытанае. Напрыклад, калі мы разглядаем кнігі з рознымі жывёламі, можна імітаваць іх звычкі — тады чытанне будзе маленькім спектаклем для вас дваіх. Альбо пераймаць дзеянні герояў: тупаць нагамі, калі нехта ідзе, грукаць, калі нехта зваліўся.

Падчас чытання можна спяваць пацешкі, падкідваць малечу на каленях у такт рытму вершаў, смешна паўтараць гукі жывёл — рабіць усё, каб паказаць, што чытанне прыносіць задавальненне. Калі дзецям ад нараджэння да школы чытаюць часта і з захапленнем, яны пачынаюць атаясамліваць кнігі са шчасцем, і ёсць вялікі шанец, што чытанне будзе іх улюбёным хобі.

## КНІЖКА-КАРЦІНКА: ЯК ЯЕ ПАЗНАЦЬ?

Пацешкі, вершы для самых маленькіх, рыфмаваныя аўтарскія казкі, народныя казкі... Да класічнага спіса кніг, якія мы чытаем з дзецьмі, варта дадаць яшчэ адну важную пазіцыю: кніжкі-карцінкі. Гэтыя выданні патрабуюць адмысловага падыходу, але выклікаюць у маленькіх чытачоў вялікае захапленне.

Спачатку кніжкай-карцінкай называлі аўтарскую кнігу мастака, дзе галоўнымі з'яўляюцца малюнкі, а подпісы да іх маюць неабавязковы характар. З цягам часу гэты кірунак у кнігавыданні змяняўся і развіваўся. Як сёння пазнаць кніжку-карцінку сярод мноства кніг, дзе ёсць і тэкст, і шматлікія ілюстрацыі?

У класічных ілюстраваных кнігах малюнкі афармляюць і суправаджаюць тэкст, а ў кніжцы-карцінцы ілюстрацыі адыгрываюць галоўную ролю ў разуменні гісторыі. Часам яны могуць распавядаць гісторыю самастойна (бо кнігі-карцінкі без тэксту выдаюцца дагэтуль). Часам працягваюць сюжэтную лінію ці надаюць тэксту дадатковы сэнс. Напрыклад, перадаюць іронію, якую немагчыма было б заўважыць паміж радкоў.

Ілюстрацыі ў кніжцы-карцінцы дапамагаюць глыбей аналізаваць гісторыю. Без ілюстрацый сюжэт спрашчаецца ці выглядае незавершаным, тэкст кнігі перастае быць самастойным літаратурным творам. Чым менш слоў у кнізе, тым большую частку «расповеду» бяруць на сябе малюнкі.

Кніжка-карцінка адкрывае асаблівы, інтэрактыўны спосаб зносінаў. Падчас чытання дарослыя могуць дадаткова абмеркаваць з дзецьмі сюжэт, малюнкі, словы, якія выкарыстоўваюцца ў тэксце. Такое ўзаемадзеянне паглыбляе разуменне прачытанага.

Як і многія творы для дзяцей, кніжкі-карцінкі часта маюць цыклічны сюжэт. Калі для дарослага шматлікія паўторы сведчаць пра аднастайнасць, то дзіця ўспрымае іх зусім інакш. Цыклічны сюжэт дазваляе маленькаму чытачу адчуць сваю далучанасць да кнігі. Дзеці адчуваюць захапленне, калі могуць прадказаць наступную рэпліку героя і так, непрыкметна, за гульнёй з тэкстам і кнігай развіваюць фанематычнае ўспрыманне, павышаюць узровень разумення прачытанага і ўдасканальваюць навыкі звязнага маўлення.

Не забываемся, што ілюстрацыі ў кніжцы-карцінцы не менш істотныя за тэкст. Малюнкі — гэта прастора для ўяўлення, бо па карцінах можна больш падрабязна апісаць псіхалагічны стан галоўнага героя, дадумаць акалічнасці многіх здарэнняў. Ілюстрацыі не толькі дазваляюць патрапіць у казачны свет — іх можна выкарыстоўваць з дыдактычнымі мэтамі: напрыклад, палічыць дрэвы і кацянят, параўнаць суседнія будынкі.

Кніжныя ілюстрацыі — першыя творы мастацтва, з якімі знаёмяцца дзеці, таму выданні з шаблоннымі малюнкамі — не лепшы варыянт для хатняй бібліятэкі.

## ШУКАЕМ БЕЛАРУСКАЕ

Сучасныя бацькі зычліва ставяцца да кніжак-карцінак і гартаюць прыгожыя выданні, магчыма, нават з большым задавальненнем, чым іх уласныя дзеці. Наяўнасць вялікага выбару дзіцячых кніг, выдадзеных на рускай мове, задае гарызонт чаканняў ад беларускіх кнігавыдаўцоў. Але падрыхтоўка кніжак-карцінак патрабуе значных рэсурсаў, якія ёсць далёка не ў кожным выдавецтве. Такая сітуацыя спрыяе павелічэнню цікавасці да перакладных выданняў. Менавіта сярод перакладаў можна знайсці ці не адзінкавыя прыклады якасных сучасных кніжак-карцінак («Снежны чалавек» Эвы Сусы, «Жабка і чужынец» Макса Фэлтаўйса). Разам з тым, мы маем нямала добра ілюстраваных дзіцячых кніг, якія можна чытаць амаль як кніжкі-карцінкі.

Кніжкі-карцінкі карысныя не толькі ў якасці першых кніг для сумеснага чытання, але і як кнігі для самастойнага чытання. Трэба памятаць: колькасць слоў у кнізе не мае дачынення да ўзроўню чытача. Сэнс тэксту з дзесяці сказаў можа зацікавіць шасцігадовае дзіця, і кніга будзе неаднойчы перачытвацца. А трохгадовае дзіця будзе абсалютна абыякавым да яе, бо не здолее суаднесці сюжэт са сваім жыццёвым досведам.

Старэйшыя дзеці, а разам з імі дарослыя на прыкладзе ілюстрацый могуць практыкавацца ў распазнаванні мастацкіх стыляў, такіх як рэалізм, імпрэсіянізм, экспрэсіянізм, абстракцыянізм, прымітывізм ці сюррэалізм (так, усе яны могуць прысутнічаць у сучасных дзіцячых кнігах). Тэхнічных сродкаў стварэння ілюстрацый таксама вельмі шмат. Ужо ў кнігах для самых маленькіх можна сустрэць графіку і жывапіс, калаж і фатаграфію, гравюру і літаграфію. Чым раней дзеці пазнаёмяцца з разнастайным выяўленнем мастацкіх ідэй, тым больш чуйныя яны будуць да свету эстэтычнага.

Супольнае чытанне — выдатны спосаб зносін у сям'і, да таго ж гэта істотны стымул развіцця. Дзеці любяць творчасць: шмат малююць, расфарбоўваюць, лепяць. Ілюстраваныя выданні даюць магчымасць блізка пазнаёміцца з плёнам творчай працы іншага чалавека, і нават для трохгадовага чытача гэта можа быць выдатнай нагодай неадкладна ўзяцца за новую кнігу!

**Наталля МЯДЗВЕДЗЬ,**

**вядучая блога «Маленькі чытач», выдатная мама і філосаф па адукацыі**



**распачынае серыю публікацый для ўсіх дарослых, якія любяць чытаць кнігі разам з дзецьмі. Рэкамендацыі і новыя ідэі дапамогуць зрабіць сямейныя чытанні больш цікавымі і ўтульнымі.**



## Валер Гапееў, пісьменнік:

— Маёй унучцы цяпер 9 месячыкаў. Канечне, я падарыў ёй сваю кнігу «Сонечная паляна». І яе мама, мая нявестка, гартала старонкі, паказвала малюнкі: «Зайчык, гэта зайчык... Сонейка... Вожык, гэта вожык...». І не адзін раз. Дык вось, на маю аўтограф-сесію ў краме «Галіяфы» прыязджаюць сын, нявестка і ўнучка Кіра. А там жа кніг, вокладак, колераў! У дзіцяці вочкі разбягаюцца. «А вось гэтая кніга ў нас ёсць», — кажа сын, здымае з палічкі «Сонечную паляну», паказвае Кірачцы. І раптам — рэакцыя-ўздых-захапленне: «І-і-і-і-і!». Нам усім і радасна, і смешна — дзіця пазнала кнігу.

Сыну і дачцэ паказвалі кнігі самыя розныя, як толькі яны пачалі звяртаць увагу на нешта пэўнае, канцэнтравацца, запамінаць. Прыдумвалі простенькія гісторыі, дзеці іх пераказвалі (нязважна, што тэкст быў ужо іншы). Пазней сын сам прыдумляў гісторыі, як яго прасілі: «А хто гэта? А што ён робіць?» Жэнька з паўтара года любіла кнігі, разглядвала малюнкі — бясконца, гадзінамі… Карацей, у 8 месяцаў кнігу дзіцяці можна паказваць — тое пацвердзіла мая ўнучка Кірачка.



## Наста Кудасава, паэтэса:

— Зусім немаўляткам я чытала тыя кнігі, якія падабаліся мне. Вельмі зручна: і сабе адхланне, і дзіця супакойваецца. Тут, канечне, стаўка рабілася на выразную эмацыйную падачу, каб менавіта самім голасам і артыстычнасцю перадаць штосьці — пяшчоту, супакой, што заўгодна — галоўнае, каб дзіцё заслухалася і адчула, што адбываецца штосьці важнае. Так я ім усіх сваіх любімых паэтаў адразу ад нараджэння і перачытала: і Цвятаеву, і Таркоўскага, і інш. Найлепей з чытаннем у нас было, канечне, з сынам, бо ён нарадзіўся першым і яму нічога не заставалася, як быць цалкам пад маім уплывам. Дачка ўжо неяк аўтаматычна была падключаная да чытання з брацікам.

А калі яны падраслі і пачалі разбірацца ў змесце таго, што чытаецца, я іх стала знаёміць з маімі любімымі казкамі — Уладзіміра Караткевіча, Яўгенія Шварца, з мумі-тролямі Туве Янсан. Чытаем і па-руску, і па-беларуску — галоўнае, каб гісторыя была добрая. І, вядома ж, вялікую ролю адыгрываюць прыгожыя ілюстрацыі. Хаця мне, калі шчыра, хацелася б, каб дзеці ўсведамлялі: асноўнае закладзена ў тэксце. І нават без карцінак кніга хавае цуды — варта толькі ўключыць фантазію!

# Канікулы нястрогага рэжыму

## Гісторыя пра пераблытаных адрасатаў

**Назавіце самыя папулярныя фразы, якія датычаць дзіцячых пісьменнікаў, дзіцячай літаратуры ўвогуле. Можам паспрачацца, сярод згаданых вамі варыянтаў прагучалі «маленькі чытач — самы строгі» і «каб пісаць для дзяцей, трэба самому заставацца дзіцём». Штампы, але цалкам справядлівыя. А датычна другога прапануем яшчэ і трошку паразважаць.**




### БУНТ — ПРЫКМЕТА ЯКАСЦІ

Дзеля чаго трэба заставацца дзіцём? Няўжо сур'ёзны, дарослы чалавек не здольны стварыць цікавы, жывы твор, які ў чытача выкліча не стрыманае пазяханне, але смех і радасць?

Не. Не здольны.

Таму што паміж дзіцём і дарослым палягаюць словы «трэба», «павінен», «правільна». Словы, без якіх у свеце ўсталяваўся б хаос, вядома, але і на іх адных далёка не заедзеш. Калі аўтар сядае за пісьмовы стол у бездакорна белым каўнерыку, а ў творы адштурхоўваецца толькі ад гэтых строгіх пастулатаў, прыкрае адчуванне падману і расчаравання ў выніку прыйдзе не толькі да дзіця — такі стэрыльны твор застанецца некранутым на паліцы ў чытача любога ўзросту. Бо кожны з нас, незалежна ад колькасці пражытых гадоў, сацыяльнага статусу і іншых дробязных прыкметаў, ведае: паміж «павінна» і сапраўдным жыццём — бездань. Дзесяць запаветаў, вядома, дапамагаюць жыць. Але цяжка ўявіць сабе геніяльны літаратурны твор, дзе б не парушаўся хоць бы адзін з гэтых запаветаў. «Мадам Бавары», «Ганна Карэніна», «Чужая бацькаўшчына» і «Пэпі Доўгая Панчоха» — ва ўсіх іх ёсць агульны знаменальнік — разуменне чалавечых слабасцяў.

І калі ў кнігах «для дарослых» неадназначнасць чалавечай прыроды адлюстроўваецца больш-менш праўдзіва, бо мы ж дарослыя, мы ж разумеем, што так нельга, то ў кнігах для дзяцей суровы ўнутраны наглядальнік нярэдка набывае ўладу над аўтарам. І ў выніку кніга атрымліваецца не для дзяцей, але пра іх, прычым не пра жывых, гарэзлівых, непаслухмяных, цікаўных дзяцей, але пра ўзорных хлопчыкаў і дзяўчынак, чые прыгоды не сягаюць далей за плот бабулінага двара, якія з непадробнай цікаўнасцю выслухоўваюць усе дзедавы павучанні і гістарычныя экскурсы, займаюцца спортам, шануюць «жыўнасць» і ўвогуле — не ведаюць ніякіх этычных сумненняў.

А вы такіх бачылі?..

### ІЗЯСЛАЎ І «САЛДАТЫ»

Дзіўнае спалучэнне, праўда? Славуты беларускі княжыч-кніжнік — і танны расійскі серыял. Між тым спалучэнне гэтае сапраўды існуе, і не дзе-небудзь, а ў дзіцячай кнізе «Арцёмкавы канікулы», напісанай Зіновіем Прыгодзічам.

Адзначым творчыя ўдачы кнігі. Па-першае, аўтар звяртаецца да беларускай гісторыі. Вялікае Княства Літоўскае, паганскія традыцыі, жыццё шляхты, Вялікая Айчынная вайна і партызаншчына, нават развал Савецкага Саюза — усё гэта знайшло месца ў «Арцёмкавых канікулах». Па-другое, Зіновій Прыгодзіч стварае партрэт «правільнага» хлопчыка: паважае старэйшых, вучыцца выдатна, любіць жывёл, здольны да спачування і добрых учынкаў. Трэцяе — гэта мова. Так, часам сустракаюцца дробныя агрэхі, але тое недагляд рэдактара, уласна ж мова аўтара гучыць натуральна, прыгожа, не выклікае адчужэння. І чацвёртае: у «Арцёмкавых прыгодах» даволі шмат увагі надаецца свету жывёл. Што й не дзіўна: хлопчык бавіць летнія вакацыі ў вёсцы. Да таго ж, дзядуля распавядае час ад часу пра дзікую прыроду: насельнікаў мясцовага лесу, птушыны свет... Якраз гэтыя фрагменты Зіновію Прыгодзічу ўдаюцца найбольш. Хацелася б пачытаць анімалістычныя творы гэтага аўтара. Прыкладам, самы пацешны (і тут з сумам трэба адзначыць — адзіны пацешны) момант у кнізе звязаны са спартыўнымі спаборніцтвамі, у якіх узяў удзел сабака Джэк. Тут сваю ролю адыграла пачуццё гумару аўтара і ўдалая падача — стыль спартыўнага каментатара, які ў спалучэнні з карцінкай стварае камічны эфект. Шкада, што спадар Зіновій не дазволіў сабе пацешыцца крыху (а мо і не крыху) больш. Кніга ад гэтага, падаецца, толькі б выйграла.

Але і гэтым разам у медаля ёсць адваротны бок. Так, кніга пазнавальная, так, павучальная, але дзе абяцаныя ў анатацыі прыгоды? Дзе жывыя людзі, а не выключна разважлівы дзед і яго ўнук-слухач? Дзе парушэнне правілаў, якое адначасова выклікае ў чытача непадробны інтарэс і здольнае павучаць правільным паводзінам не горш за наўпроставыя ўказанні?.. У выніку складваецца ўражанне, што кніга пісалася не для дзяцей, а для такіх самых дзядоў і бабуль, да якіх на лета прыязджаюць унукі — з мэтай даць ім матэрыял для лекцый і інструкцыю правільнага выхавання.

### ХЛОПЧЫК ЗОРНЫ І ЎЗОРНЫ

Іншая сітуацыя з кнігай Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Канікулы з прыгодамі, альбо Зваротны візіт Зорнічка да хлопчыка Стасіка». Тэматычна і «прадметна» яе кніга выдатна сканструяваная. Тэма канікулаў таму і папулярная ў дзіцячых аўтараў — воля поўная. Спадарыня Кацярына выкарыстоўвае гэта на сваю карысць: падчас канікулаў Стасік сустракае даўняга сябра Зорнічка, знаёміцца з іншымі хлопчыкамі і нават дзяўчынкамі. Апошняе немалаважна: стасункі ў дзіцячым узросце — тэма калі не забароненая, то ўвагай абдзеленая. Падчас канікулаў з дзецьмі адбываюцца сапраўдныя прыгоды, то бок — з рызыкай, з памылкамі, з парушэннем правілаў. Што не можа не цешыць: літаратурныя дзеці нарэшце ажылі.

Пры гэтым праўдзіва выглядаюць і стасункі між імі: знаходзіцца месца сяброўству, сваркам, расстанням, рэўнасці да сябра і рэўнасці па віне сябра, суму і радасці, сумненням і шчырасці. Дзеці, якія не з'яўляюцца закаранелымі хуліганамі, таксама хлусяць і недагаворваюць, перабольшваюць свае подзвігі і не ведаюць, як паводзіцца ў няпростай сітуацыі. Гэтыя дзеці робяць «няправільныя» крокі — тым яны і цікавыя.




Тэмы Кацярына Хадасевіч-Лісавая закранае заўжды цікавыя чытачу: знаёмства з новымі людзьмі і страхі, з гэтым звязаныя; недавер дарослых да дзіцячых фантазій; стэрэатыпы пра хлопчыкаў і дзяўчынак ды іх разбурэнне; уласна тэма канікулаў і спосабы іх бавіць. Адна акалічнасць — тое, што Зорнічак упершыню апынуўся на Зямлі і толькі знаёміцца са звыклымі для нас забаўкамі, — дазволіла аўтарцы паднавіць погляд на многія рэчы: ад футбола з хакеем да гарбаты на зёлках і дранікаў.

Здавалася б, кніга складаецца з адных удач. На жаль, не.

Змест кнігі сапраўды не выклікае супярэчанняў. А вось мова… Часам складваецца такое ўражанне, быццам аўтарка забылася, што піша для дзяцей, і рука «заміж персідскага ўзора» пачынае выводзіць… У якіх абставінах дзесяці-дванаццацігадовы хлопчык можа сказаць свайму сябру вось такое: «Нашае сяброўства ўяўляе для мяне вялікую каштоўнасць»?.. Так і хочацца дадаць: «Ударым аўтапрабегам па бездарожжы!» Да ўсяго, не ўпрыгожваюць аўтарскі стыль і русізмы.

Словам, калі б узяць мову ды асветніцтва Прыгодзіча і спалучыць іх з фантазіяй і чуйнасцю Хадасевіч-Лісавой, мы, відаць, атрымалі б выдатную кнігу для дзяцей!

### ВЕРА Ў ЦУДЫ

Новая кніга Тамары Бунта з прыгожай назвай «Дзяўчынка з вішнёвага завулка», безумоўна, заслугоўвае асобнай гаворкі. Назва невыпадковая, гэта сапраўды не проста зборнік апавяданняў, але нібыта адна гісторыя пра дзяўчынку Тому. Паколькі кніга аўтабіяграфічная, танальнасць заканамерна набывае настальгічныя ноткі. Настрой гэты здольныя ўспрыняць многія з нас, нават тыя, чыё дзяцінства праходзіла не ў 1960-х, пра якія вядзецца ў кнізе, але і ў другой палове 1980-х.

Адметным у кантэксце сучаснай беларускай літаратуры для дзяцей падаецца апавяданне «Шкілет», у якім закранаецца праблема дзіцячага страху (звяртаюцца да гэтай тэмы рэдка). Боязь цемры і адзіноты, што перажывае галоўная гераіня, знаёмы, бадай, кожнаму дзіцяці. Пры апісанні такіх сюжэтаў самае важнае — правільнае, з псіхалагічнага гледзішча, заканчэнне: каб дапамагчы, а не нашкодзіць. І гэта ў Т. Бунта атрымалася ідэальна.

Дзякуючы глыбокаму псіхалагізму, якім прасякнутыя многія гісторыі, кніга будзе цікавай і для дарослага чытача. Аднак у гэтым, як ні дзіўна, палягае галоўная супярэчнасць ва ўспрыманні кнігі. Мастацкае афармленне, выдатна ажыццёўленае Аксанай Аракчэевай, дае пэўны «сігнал» бацькам, якія будуць выбіраць кнігу, што яна адрасаваная дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Як і некалькі першых гісторый. Але выдатныя апавяданні «Гусак», «Лялька», «Апельсіны», «Чужое гора», «Хлопец з чужой каманды», «Белая аблачынка» адрасаваныя прынамсі падлеткавай аўдыторыі, у той час як ілюстрацыі адназначна арыентаваныя на ўспрыманне дзяцей ад трох да дзевяці гадоў. Вядома, дарослы можа дапамагчы свайму дзіцяці спасцігнуць няпростыя правілы чалавечых дачыненняў, якія апісваюцца ў названых гісторыях. Але калі дашкалятку прачытаць, як адзін з герояў апавядання «Любімае свята дзяцінства» дзядзька Лявон «кладзе цукеркі ў кожны боцік, у кожны валёнак, у кожны галёш», а пасля дадае: «— Заўтра скажам, што ноччу Дзед Мароз прыходзіў», то гэта дакладна скончыцца стратай у дзіцяці веры ў калядныя і навагоднія цуды.




Увогуле, ужо не першы раз даводзіцца сустракацца з тым, што ў сучаснай беларускай літаратуры часта змешваюцца паняцці «кнігі для дзяцей» і «кнігі пра дзяцей», у выніку чаго ў дзіцячых паводле афармлення і анатацыі кнігах аказваюцца не зусім дзіцячыя гісторыі.

### ВОЗЕРА ДЗІВА І ЯГО ВАКОЛІЦЫ

З насельнікамі лясоў, азёраў і балот знаёміць юных чытачоў у сваёй новай кнізе казак «Возера дзіва» Міхась Пазнякоў. Кнігу ўмоўна можна падзяліць на дзве часткі: празаічную, у якой распавядаецца пра беларускую флору і фаўну; і паэтычную, прысвечаную класічным казачным сюжэтам.

Празаічныя казкі — гэта адаптаваныя для дзіцячага ўспрымання легенды пра паходжанне назваў некаторых раслінаў (сон лугавы, мнаганожка звычайная, чараўнік зеленакветкавы) і найменняў птушак (чырвоны каршун, белая чапля, чорны бусел, серабрыстая чайка, сіпуха). Сапраўды, для сучасных дзяцей, якія ў камп'ютарных тэхналогіях і рэкламных брэндах разбіраюцца значна лепей, чым у прыродным наваколлі, гэта пазнавальна і карысна. Акрамя таго, казкі насычаныя патрыятычна-выхаваўчым зместам, што робіць іх прыдатнымі не толькі для сямейнага чытання, але і для вывучэння ў дзіцячых садках і школах.

Калі празаічная частка арыентаваная на беларускую рэчаіснасць, то паэтычная закранае пераважна пытанні агульначалавечых маральных нормаў. Сумленнасць у процівагу сквапнасці, мудрасць, якая перамагае сілу, адданасць сяброўству, вышэйшую за інстынкты самазахавання, — усе гэтыя тэмы знайшлі паэтычнае ўвасабленне ў казках Міхася Пазнякова. А «Казка пра мядзведзя» і невялічкая вершаванка «Малпа» дапамогуць маленькім чытачам асэнсаваць важнасць правільнага размеркавання часу і выбару мэты. Прыхільнікам творчасці Уладзіміра Суцеева будзе цікава пачытаць знаёмую гісторыю ў новай інтэпрэтацыі («Качаня і Пеўнік»). А дзве апошнія казкі — «Ганарлівая дзяўчына» і «Кемлівы землякоп» прыйдуцца даспадобы і больш дарослым чытачам, паколькі закранаюць складаныя пытанні маральнага выбару і сапраўднасці жыццёвых каштоўнасцяў.




Асобна варта адзначыць і мастацкае аздабленне кнігі: шыкоўныя ілюстрацыі Валянціна Макаранкі, якія суправаджаюць кожную казку, зробяць чытанне цікавым і захапляльным.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**Жанна КАПУСТА**

Ганна АТРОШЧАНКА



## Парада

*Жыццё вірue, як крыніца,*
*Прырода дорыць людзям тайны.*
*І першы снег, і навальніца,*
*І кожны міг наш незвычайны.*

*І, каб Гасподзь нас засцярог,*
*Адвёў бяду, грэхападзенне…*
*У светлы храм вядзе ўсіх Бог,*
*Малітва — вось яно, збавенне.*

*Каб бачыць шлях перад імглой,*
*Узгоркі, нізкія лагчыны,*

*З малітваю сябруй святой,*
*Любі людзей і край свой слынны.*

## Не пакідай!

*Не пакідай. Прашу. О Божа!*
*Мой лёс з гаркотаю такі...*
*Анёл няхай мне дапаможа*
*Прайсці нялёгкія шляхі.*

*Хай і жыву не так, як трэба,*
*Але з малітваю іду.*
*Прашу і Бога я, і неба,*
*Каб адвялі далей бяду.*

*Не пакідай. Прашу. О Божа!*
*Мой лёс з гаркотаю такі...*
*Анёл няхай мне дапаможа*
*Прайсці нялёгкія шляхі.*

***

*Мяне, напэўна, не пазналі…*
*Прайшло нямала ўжо гадоў.*
*І ўспаміны, нібы хвалі,*
*Вяртаюць той дзянёчак зноў.*

*Сустрэліся мы выпадкова,*
*Вы, як прывід, прайшлі ў акне…*
*І не сказалі нават слова,*
*Калі зірнулі на мяне.*

*Лёс вырашалі наш нябёсы,*
*Сляды згубіліся ў траве.*
*Жаўцеюць ля рачулкі плёсы,*
*Ніхто не кліча, не заве…*

***

*Задумлівы сягоння вечар,*
*Прабеглі промні па траве.*
*І абдымае цемра плечы,*
*І затаілася ў журбе.*

*Самота агарне раптоўна,*
*Заб'ецца сэрцайка часцей.*
*Віецца ўспамін няўлоўна,*
*Раса застыне ля вачэй…*

## Сон

*Грэюць сэрца ўспаміны,*
*Хай прабеглі тыя дні...*
*І вясёлыя хвіліны,*
*Як згарэлі ў агні.*

*Сёння радасці багата:*
*У мінулы дзень іду!*
*Бачу студню каля хаты,*
*Маці чэрпае ваду...*

*Тварык родны, як дзявочы...*
*І няма пакуль жуды.*
*Зіхацяць шчаслівa вочы —*
*Маладыя шчэ гады!*

*Зелянеюць зноўку вербы,*
*Лес высокі і густы.*
*І бяжыць дзятва па грэблі*
*З вечаровай цемнаты.*

*Дзе ж, сяброўкі, мая хата?*
*Сцежка наша як страла...*
*Азірнуся вінавата:*
*Родны сад свой не знайшла.*

## Прызнанне

*Не паненка, не царэўна,*
*Не сагнуў лёс у дугу!*
*Тым шчаслівая, напэўна, —*
*Гонар роду берагу.*

*Гора зведала-спазнала,*
*Лёс не буду праклінаць.*
*Сустракала зла нямала,*
*Калі бегла цераз гаць.*

*Ды, відаць жа, не дарэмна*
*Зззяюць зоркі ў вышыні.*
*Хай не стала я царэўнай,*
*Але ўдзячна за ўсе дні…*

***

*Ці крочым мы, а мо паўзём?*
*Такая вось дарога:*
*Ці камяні, ці чарназём…*
*Кюветаў стрэнем многа.*

*Ляцяць малітвы да нябёс,*
*Мы шчыра просім Бога:*
*Каб міласэрным быў наш лёс,*
*Пакінула трывога…*

Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ



## У вачах тваіх

*Многа стрэлася мне вачэй,*
*Што дарылі святло,*
*А твае падарылі яшчэ*
*Мне кахання цяпло.*

*Біў у грудзі калючы снег,*
*Дзень чарнеў ад бяды.*
*Толькі тое цяпло мяне*
*Саграваla заўжды.*

**Прыпеў:**
*У вачах тваіх ружавее май,*
*І спакусы міг, і любоў твая.*
*І чаромхі снег, пошчак салаўя,*
*І шчаслівы смех,*
*І любоў мая.*

*Многа стрэлася мне дарог,*
*Праз пакуты і зло.*
*Толькі ў сэрцы заўжды бярог*
*Я кахання цяпло.*

*Ад прыгожых тваіх вачэй*
*Зноў квітнее вясна,*
*І пяе, і пяе салавей*
*Нам з табой да відна.*

## Маладзечна

*Дарогі ўсе вядуць у Рым,*
*у горад вечны.*
*А я сумую па сваім,*
*па Маладзечна.*
*Сюды вяртаюць зноў і зноў*
*з блакіту вочы,*
*Юнацтва першая любоў,*
*і стан дзявочы…*

**Прыпеў:**
*Горад-горад, у парку пары,*
*Танцпляцоўка і звон гітары.*
*Горад-горад, перон з вакзалам,*
*Дзе каханне мяне спаткала…*

*У небе плачуць журавы,*
*ляцяць за мора,*
*Ў далёкі свет ляцім і мы,*
*а ў сэрцы — горад.*

*Станцуе восень дзіўны вальс*
*пад Шляхам Млечным,*
*І вернуць успаміны нас —*
*у Маладзечна!...*

## Мой лёс

*Ты мне падарыў*
*Цішыню спадзявання,*
*Агонь пачуцця*
*І спакусу кахання.*
*І продкаў дарогі,*
*Радзіму, што лечыць.*
*І роспачны вецер,*
*І роздумны вечар.*

**Прыпеў:**
*Мой лёс, каханне дзіўнае,*
*Святое, жураўлінае.*
*З табой, дзе клёны з вязамі,*
*Вадой*
*крынічнай звязана.*

*Ты мне падарыў*
*І сяброў, нібы свята,*
*Матулі цяпло,*
*І бацькоўскую хату.*
*Адзіную веру,*
*Святую надзею,*
*І струны дажджу,*
*І акорды завеі.*

*Сустрэнуць мяне*
*І падманы, і здрады,*
*Калючыя словы,*
*Чужыя пагляды.*
*Ды я спадзяюся,*
*Адчыняцца дзверы,*
*І прыйдуць Любоў,*
*І Надзея, і Вера…*

## Блакітнае неба Радзімы…

*З дарог далёкіх, з чужога краю,*
*Вакзал гасцінна гасцей страчае.*
*І неба стане блакітным самым,*
*Бо тут чакаюць сябры і мама.*
*У хваляванні заб'ецца сэрца,*
*Тут край Радзімай вякі завецца…*

**Прыпеў:**
*Тут пяшчота маё сэрца ахіне,*
*Бо каханая ў вочы зазірне.*
*Тут салоўка пра каханне нам пяе,*
*Дзе жывуць Радзімічы мае…*

*Над роднай хатай дымок віецца,*
*Святлом прыветным гарыць акенца.*
*Мяне абдымуць матуля з татам,*
*І стол накрыты, нібы у свята.*
*Радня з сябрамі сюды загляне,*
*І будуць песні гучаць да рання.*

Надзея ПАРЧУК



***

*Як бы высока ні лятала*
*Душа мая ў аблоках —*
*Яшчэ тых зор не дасягала,*
*Што са святых вытокаў...*

*Я толькі ведаю і помню,*
*Што я — пясчынка ў свеце;*
*Удзячна ранішняму промню,*
*Што мне прыязна свеціць.*

*І хоць ніколі мне не ўдасца*
*Да тых свяціл падняцца,*
*Дык хоць бы вымаліла шчасця —*
*Дачкой удзячнай звацца.*

## Ластаўчын карагод

*Што за птушкі дзіўныя*
*За акном лятаюць!*
*І пара зажніўная,*
*А яны спяваюць.*

*Ці то ім так светла жыць,*
*Ці то ўмеюць марыць?*
*Надта ж песня іх звініць,*
*Аж святлеюць хмары.*

*Вось бы гэтак круглы год,*
*Без зімы-завеі,*
*Пеўчых птушак карагод*
*Грэў мае надзеі!*

***

*Нікому я ў жыцці ніколі не зайздрошчу*
*І спачуваю тым, хто ў горы і бядзе.*
*І хоць мяне мой лёс бязлітасціва хвошча,*
*А я плыву далей, як ветразь на вадзе.*

*А я ж яшчэ заву ўдаль іншых за сабою,*
*Прашу-малю я іх, каб верылі ў сябе.*
*Не патаналі ў зле і ў крыўдзе з галавою,*
*Не апускалі рук у цяжкай барацьбе.*



Фота Кастуся Дробава.

*І толькі гэтак мы чагосьці будзем*
*варты,*
*І толькі так мы ўсе пакінем добры след.*
*Жыццё пражыць, павер, дастойнае —*
*не жарты.*
*Нас вера і любоў выводзіць на прасвет!*

## Цвіці-красуй, зямля...

*Цвіці-красуй, зямля,*
*Пад дабрачынным небам,*
*Каб вёсачка мая*
*Была заўсёды з хлебам.*

*У радасці жыла,*
*Пра будучыню дбала,*
*Каб слава і хвала*
*Яе не прамінала!*

*Цвіці, мой любы край, —*
*Хай дзівяцца суседзі!*
*Жыві, працуй, спявай*
*На радасць родным дзецям.*

*Каб дзе хто з нас ні быў*
*Далёка ад Палесся —*
*Душою зноў ажыў,*
*Тваю пачуўшы песню.*

*Пачуўшы голас твой,*
*Такі ласкава-шчыры, —*
*У кут спяшаўся свой,*
*З маленства сэрцу мілы.*



Людміла КЕБІЧ

# Булачка

*Апавяданне*

Яшчэ месяц таму Настачка Солад вельмі пакутавала з-за свайго прозвішча. Не заспакойвала думка пра тое, што некалі яна выйдзе замуж і зменіць яго. Бо калі гэта яшчэ будзе? А тут кожны дзень хлопчыкі і дзяўчынкі дражняць-здзекваюцца, перакручваюць кожны на свой лад. Як ужо толькі не называлі: і Саладуха, і Салодзенькая, і Цукроўка! А Васька Камар учора, калі яна ішла са школьнага буфета з пачкам пячэння, паказаў на яе пальцам і голасна зарагатаў:

— Во дзіва дык дзіва! Ніколі не бачыў, каб пячэнне пячэнне ела! Слодыч — Слодыча! Ха-ха-ха! Людаедка!

Пры чым тут «людаедка», Настачка не зразумела…

— Не крыўдуй, дачушка, — угаворвала матуля, — у нас вельмі прыгожае прозвішча. І, дарэчы, ты ж добра ведаеш, што не прозвішча ўпрыгожвае чалавека, а добрыя ўчынкі.

Настачка на нейкі час супакойвалася, таму што верыла маме і вельмі яе любіла. Яны жылі ўдвух. Тата два гады таму паехаў на заробкі ў нейкую далёкую краіну, адкуль нават патэлефанаваць было немагчыма — не тое што ліст ці віншавальную паштоўку даслаць. Калі Настачка распытвала пра тату, мама нервавалася. Штосьці недагаворвае?..

Але што магла зрабіць яна, чацвёртакласніца Настачка, танклявая, слабенькая дзяўчынка з выразнымі цёмнымі вачыма на белым авальным тварыку, аграненым русымі кучаравінкамі, якія выбіваліся з туга заплеценай касы?! Яна марыла зрабіць нешта такое, каб усе змоўклі і перасталі дражніць. А як праславіцца, калі мама нават апрануць яе па-моднаму не магла?

Слава звалілася нечакана. У той восеньскі лістападаўскі дзень, выпраўляючы Настачку ў школу, мама чамусьці доўга ахутвала яе шалікам, угаворвала апрануць цёплую безрукавачку. Абняўшы, перахрысціла на дарогу неяк больш пранікнёна, чым заўсёды.

— Ідзі па вуліцы, а не праз стадыён, — загадала ўрэшце строгім голасам.

У школе — усё як заўжды: заняткі, дражнілкі, на вялікім перапынку — сталоўка. Настачка з'ела ўвесь абед, а булачку закруціла ў папяровую сурвэтку, прынесла ў клас і паклала ў ранец.

«Маме занясу», — падумала дзяўчынка.

Пасля заняткаў хутка апранулася. Вырашыла, што пойдзе напрасткі, праз гарадскі стадыён, каб скараціць час.

Сцяжынка вяла ў самы далёкі закутак стадыёна, да невялікай дзіркі, праз якую можна было пералезці на другі бок жалезнай агароджы і адразу апынуцца на сваёй вуліцы.

Зямля пад нагамі хлюпала і коўзалася. Ды Настачка не спынялася — паспрабавала ісці па полі, там, дзе сушэй, але… саступіла са сцежкі. Бок сцяла болем. Ногі чапляліся за смецце і бітую цэглу. Каналізацыйны калодзеж! Высока над ёю нядобра шарэла хмурае восеньскае неба. Сценкі калодзежа былі круглыя і гладкія, зачапіцца не было за што. Сціснула абдзёртыя далоні:

— Людзі, людзі, дзядзечкі, цётачкі, дапамажыце, я тут!

Але толькі рэха адгукнулася…

Знясіленая, дзяўчынка заснула.

Прачнулася ад холаду. Зірнула на неба: яшчэ ноч. «Мама вар'яцее, можа, ужо міліцыя шукае... А што, калі ніхто мяне не знойдзе і я памру?» — мільгацелі страшныя думкі.

Настачка глыбей схавала нос у цёплы шалік і патанула ў сне.

…Вялікі кот Леапольд ганяў па класе Ваську Камара, а той пераляцеў з парты на парту на сваіх камарыных крылцах, якія тырчэлі ў яго за плячыма, і пішчаў, як сапраўдны камар. А іх настаўніца Ала Сямёнаўна стаяла ля дошкі, абмахвалася веерам і задаволена прыгаворвала:

— Ага, Камар, атрымаў?! Цяпер не будзеш мяне Цукроўкаю называць!

І настаўніца ператварылася ў яе, Настачку. Васька таксама раптам ператварыўся ў патлатага рудога сабаку, ускочыў на акно і пачаў гаўкаць…

Настачка здрыганулася і расплюшчыла вочы. Над калодзежным люкам стаяў ужо сапраўдны патлаты чорны сабака і, пазіраючы на яе, гучна брахаў.

Днём таксама было холадна, але яна старалася не заўважаць гэтага, не думаць пра дрэннае. Расцірала шчокі і далоні, дыхала на пальцы, каб хоць крыху сагрэцца. А яшчэ хацелася есці і піць. У ранцы, праўда, ляжала маленькая школьная булачка. Але яна — для мамы…

А мама ці не памірала ад гора. Другія суткі пайшлі, як прапала дачка! Міліцыя, суседзі з ног збіліся. Уся школа была апытана. Ніхто нічога не ведаў і не бачыў.



І толькі раніцай трэцяга дня сталы чалавек вырашыў прагуляцца па закінутым куточку гарадскога стадыёна і пайшоў па той сцяжынцы, дзе рэдка хто хадзіў. Спыніўся, каб падняць з гразі адзін з апошніх апалых жоўтых лісточкаў і раптам пачуў дзіцячы плач. Чалавек пайшоў на голас і прыйшоў да калодзежа.

…Машыны хуткай дапамогі і міліцыі прыехалі праз лічаныя хвіліны. Дзяўчынку дасталі з люка, захуталі ў цёплыя коўдры і паклалі на насілкі. Яна была амаль нерухомая.

— Пераахаладжэнне! — сумна выдыхнуў доктар. — Уключай сірэну, — скамандаваў вадзіцелю.

У рэанімацыйным аддзяленні абласной бальніцы Настачку выратоўвалі некалькі дзён. Нарэшце яна расплюшчыла цёмна-парэчкавыя вочкі:

— Ой, як жа тут цёпла.

А калі мама забірала дзяўчынку дахаты, галоўны доктар Аляксей Сымонавіч нахіліўся да Настачкі:

— І ўсё ж, даражэнькая, чаму ты не з'ела тую булачку, што мы знайшлі ў тваім ранцы?

Настачка ўзняла вочы на доктара і здзіўлена прамовіла:

— Дык жа булачка была для мамы.

Праз месяц Настачка вярнулася ў школу. Аднакласнікі сустрэлі яе з непрытоенай цікаўнасцю, быццам у клас увайшла не яна, а прыгажуня і разумніца Сабрына з глянцавай вокладкі аднайменнага часопіса для дзяўчынак.

У вачах аднакласнікаў яна была гераіняй. Суседка па парце, рухавая сакатушка Ліза, адразу паведаміла:

— Ой, што было! Мы цябе на класнай гадзіне абмяркоўвалі, пакуль ты хварэла. І дырэктар, і завуч прыходзілі!..

А Васька Камар, растапырыўшы рукі і ногі, перакрыў сабою дзверы, калі дзяўчынка выходзіла з класа на перапынак, і на поўным сур'ёзе, з захапленнем у голасе, сказаў:

— Ну ты даеш, С-с-с-с…

Новая мянушка гатова была зляцець ужо з вуснаў гарэзлівага Ваські, але хлопчык раптам сумеўся і міралюбіва дагаварыў:

— Ну ты даеш, Насця, я б не стрымаўся і з'еў тую булку. А ты — малаток!



Жанна УСЦІНАВА

# Салодкія словы

*Апавяданне*

— Наябрына Раманаўна, а чаму вам далі такое незвычайнае імя? — спытала студэнтка Гануся ў пажылой жанчыны, што сядзела насупраць на старамоднай, патрапанай канапе.

Сумеўшыся, жанчына ўзняла на дзяўчо сінія вочы, усміхнулася і працягнула:

— Час быў такі... Вясёлы, але і жорсткі, і горкі. Спадзяванні на лепшую будучыню... А бацька мой лавіў гэтыя спадзяванні прыгаршчамі, абціраў знямоглы ад працы твар і… так радаваўся… Верыў. Верыў рэвалюцыі. Верыў у новае жыццё, шчаслівае для ўсіх аднолькава. Вось і маё імя жыве з тых часоў — ужо амаль восемдзесят год… А ў суседняй вёсцы хлопца Кімам назвалі, што значыць камуністычны інтэрнацыянал моладзі. На жаль, малады памёр, яшчэ ў вайну...

«Шкада, — падумалася Ганусі, — час іх прайшоў. Наўрад ці зараз хто наважыцца даць дачцэ такое імя. Час іншы, мода іншая… Хто цяпер успомніць пра Электрын, Мэлсаў, Элемаў, Ленізаў? Засталіся хіба што адзінкі…»

Сёлетняя фальклорная практыка абяцала Ганусі, студэнтцы філфака, сапраўднае задавальненне. Кожнае новае, цікавае, нязвыклае вуху слова — нібы цукерка. Вымаючы яго з абгорткі вымаўлення, дзяўчына штораз доўга смакавала сэнс пачутага. Пасля летняй сесіі з нецярпеннем ехала да бацькоў, у вёску, і душа замірала ў прадчуванні сустрэч… Россып «салодкіх» слоў. Дзе шукаць іх, як не ў карэнных вяскоўцаў? Цікавых людзей, старажылаў яе роднай вёскі, з якімі хацелася б убачыцца, зазірнуць у вочы, пагутарыць, было шмат, і для Ганусі сустрэчы з імі былі сапраўднай падзеяй. Але чамусьці ў першую чаргу яна завітала менавіта ў гэтую старую хату на высокім пагорку, якую не адзін дзясятак гадоў вартавалі бярозы і ліпы. Тут жыла Наябрына Раманаўна Удаўцова. Вяскоўцы добра яе ведалі і называлі проста бабай Наяй.

Баба Ная ўсюды паспявае, пра ўсё ў вёсцы ведае: хто нарадзіўся, хто ажаніўся, каго праводзілі ў апошні шлях. Амаль цэлае лета яна хадзіла басанож. Ніхто ніколі не бачыў бабу Наю хвораю і не чуў, каб яна калі-небудзь ляжала ў бальніцы…

Аднойчы ў вайну маладая Наябрына паласкала бялізну ў ручаі, што віўся праз вёску. А ў гэты момант міма праязджалі немцы. Нечакана фашысцкі аўтамабіль спыніўся. Фрыцы гучна гергеталі. А дзень той быў завейны, марозны. Немцы, захутаныя да самых вачэй, падскоквалі на марозе, хукалі на змерзлыя рукі, а самі смяяліся, паказваючы пальцамі на дзяўчыну, знакі ёй нейкія рабілі — відаць, вельмі ўжо ўразіла іх такая марозаўстойлівасць. А працавітая Ная раз-пораз выпрамляла самлелую спіну ды кідала ў тазік выпаласканую і адціснутую адзежыну. Паглядзіць спадылба на немцаў — і далей за працу…

Пражыла баба Ная ў вёсцы ўсё жыццё, за выключэннем нядоўгага часу, калі была ў бежанцах. Працавала ў калгасе, нарадзіла шасцёра дзяцей, якія, пасталеўшы, разляцеліся па свеце. Засталася адна, але не адзінокая, бо ўсім патрэбная, хоць і жыве наводшыбе. Для кожнага ў яе свае парады і лекі. «Сурокі» і спалох зашэптвае, а іншым разам — укусы гадзюк, эпілепсію ды іншыя хваробы. Ходзяць па вёсцы чуткі, што можа і з прываротам дапамагчы. А яшчэ баба Ная ведае шмат цікавых слоў, выразаў, загадак, прымавак, страшных гісторый…

— Наябрына Раманаўна, мне хацелася б пачуць ад вас назвы нашых мясцовых мікратапонімаў, — узнавіла гаворку Гануся.

— Якіх такіх ікрапонімаў? — ускінуўшы галаву, засмяялася раптам старая. І смех гэты абудзіў у яе вачах непадробную весялосць дзяўчынкі-гарэзы.

— Мік-ра-та-по-ні-маў! — не сказала — весела праспявала дзяўчына, а пасля патлумачыла: — Гэта назвы нашых мясцовых урочышчаў — ляскоў, узгоркаў, крынічак, раўчукоў. Я і сама, канечне ж, некаторыя з іх ведаю з дзяцінства, але далёка не ўсе. Ды і вельмі ўжо хочацца даведацца: адкуль яны ўзяліся, назвы гэтыя, што азначаюць?

Задумалася баба Ная. Аднак неўзабаве пачала расповед:

— Чула, напэўна, ёсць за вёскай невялічкі гаёк, Шматам людзі называюць? На першы погляд лясок ды лясок, нічога асаблівага. А зойдзеш туды ўлетку — прахалода! І грыбы розныя, і ягады — суніц найбольш. А побач са Шматам яшчэ адзін лясок, змяшаны. І хвойкі тут, і асінкі, і бярозкі. І так густа яны перапляліся, што і лес празвалі Кудраўкаю... А яшчэ ёсць за вёскаю Немчыкаў роў. Жыў там калісь у сваёй хатцы чалавек адзін, нямы ад нараджэння. Сам малы, худы, ходзіць і мычыць адно. Вось таму і празвалі яго Немчыкам. І роў, глыбокі, вялікі, Немчыкавым стаў называцца. Ой, ды такіх назваў у нас процьма: Чортава ямка, Заячая гара, Шнуркі, Гарэлы мох, Негіна гара, Гара-балотца, Лісічы роў, Барок, Зімнік, Бабіна гара, Мар'ін лог, Камітэт… Дык я табе, дзевачка мая, да ночы так расказваць буду. І ты ўсё запісваць станеш?

— А як жа, абавязкова! Што, калі да нас у вёску чужы чалавек прыедзе? Стане знаёміцца, абыходзіць нашы цудоўныя мясціны. Канечне ж, убачыць мясцовыя краявіды: рэчку нашу, луг заліўны з грыўкамі хмызнякоў, лясы, балотцы, узгоркі, раўчукі. А пачуе назвы ўрочышчаў — і захочацца яму наталіцца. Вось і пойдзе выпытваць: дзе тое месца, як туды трапіць, адкуль пайшла яго назва?..

Доўга саладзіла Ганульчын слых баба Ная. Сыпаліся і сыпаліся з яе вуснаў трапныя назвы і загадкавыя, часам жахлівыя, а часам смешныя гісторыі-паданні. Ужо цямнела, а Гануся ўсё запісвала і запісвала…

# Алесь Зайка: «Наша слова — гэта сумоўе з небам»

**Слова — вецер, а папера — грунт, гаворыць прыказка. Гэтага, пэўна, трымаецца пісьменнік, краязнаўца Алесь Зайка з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У яго скарбонцы — кнігі па краязнаўстве і фальклоры Івацэвіччыны і Косаўшчыны, зборнікі нарысаў пра вясковае жыццё.**

**— Алесь Фаміч, вы з адметных мясцін: побач Косаўскі палац Пуслоўскіх, музей-сядзіба Тадэвуша Касцюшкі. Імпэту ў працы дадае адмысловы косаўскі каларыт?**

— А як жа! Самае слаўнае сяло ў нашым раёне — Бялавічы. Адсюль роды пайшлі. Тут нарадзілася Алена Глінская — маці Івана Грознага. І Тышкевічы адсюль, і Осцікі, і Сапегі. Дык запалянцы ўпершыню ўпамінаюцца як Бялавіцкае Заполле. У 1974 годзе я прыйшоў працаваць у школу ў Заполле, было 2000 чалавек. Васьмігодка, 380 вучняў. У двух класах, я памятаю, у шостых, вучыліся 64 чалавекі. А зараз, на жаль, і 100 няма. У нас сярэдняя школа — сад, у ёй ёсць этнаграфічны музей.



Фота Наталлі Святловай.

Алесь Зайка дома, у рабочым кабінеце.

**— А ў родзе ў вас хто-небудзь да пісьма, да слова павернуты?**

— Бацька быў апавядальнікам, валодаў вострым словам. Лідар, жыццярадасны. Дзе ён, там збіралася грамада. На ўсё быў здольны, спяваў. Яркае пражыў жыццё. Дзядзька мой — Іван Грэцкі — сакратар Таварыства беларускай школы, быў паслом у польскім сейме (выбраны ў 1928 годзе), дэпутатам кампартыі. Рыгор Шырма — яго сябра. Яны прыязджалі сюды. (Рыгор Шырма наведаў Бялавічы.) Мой дзядзька жыў у Вільні. Будучы дэпутатам польскага сейма, атрымліваў 3000 злотых у месяц. За іх можна было купіць 6-7 кароў. Гэта вялікія грошы. Але лёс склаўся трагічна: культ асобы Сталіна знішчыў. Жонку выслалі ў Карагандзінскі сельскагаспадарчы канцлагер. Двое дзетак было. Знайшоўся адзін сын. Трагічная старонка...

**— Чым вас вабіць краязнаўства? Што вышукваеце?**

— Неверагодныя гісторыі. Я быў напісаў пра Міхала Гамаліцкага — вучонага, медыка, які нарадзіўся ў Бялавічах. У 1828 г. ён загадваў кафедрай фізіялогіі Віленскага ўніверсітэта, доктар навук. Але захварэў і медыцыну кінуў, ды пачаў займацца археалогіяй, шмат дасягнуў, быў у добрых, прыязных адносінах з Вандалінам Пуслоўскім. А Вандалін Пуслоўскі трымаў Косаўскі палац. У яго была ўнікальная бібліятэка: скупляў рукапісы. Вучань Гамаліцкага — Адам Кіркор. Брат Гамаліцкага — Іпаліт, рэктар Жыровіцкай духоўнай семінарыі. Памёр праз тыдзень пасля жонкі. Засталіся пяць сірот. Да выхавання іх забраў святчэннік — брат жонкі Іпаліта Гамаліцкага, які служыў тут, у Бялавіцкай царкве. І ўявіце: сваіх шасцёра дзяцей і пяцёра сястры. Я аднавіў тут магілу прапрапрапрадзеда іхняга — унікальны каменны крыж, якіх мала на Беларусі: з каменнай глыбы. У Бялавічах мы адкрылі Міхалу Гамаліцкаму мемарыяльную дошку, навуковая канферэнцыя адбылася з нагоды 200-годдзя на базе Гродзенскага медуніверсітэта. Хацелі ў нас школу назваць у гонар Міхала Гамаліцкага... Ёсць дваранскі род Гамаліцкіх у Косаве. І, ведаю, дзяўчынка запалянская выйшла за Гамаліцкага. Вось так цягнуцца карані…




Аўтограф Ніла Гілевіча Алесю Зайку.

Па Заполлі ў мяне ёсць усе людзі, якія жылі за 100 год. Усё ў архівах вывучаў, у аддзеле рэдкай кнігі. Анатоль Паўлавіч Фурс у акадэмічнай бібліятэцы імя Я. Коласа, ужо на пенсіі, працаваў са мной. Дапамагалі і ў Гродзенскім архіве.

Але зараз за якую-небудзь даведку трэба шмат заплаціць. Ды яшчэ паўтара — два тыдні чакаць чаргі. Працаваў у Львоўскім дзяржаўным архіве — шукаў высокую паперу, з уніяцтвам звязаную. Даведаўся, калі быў дзень нараджэння маёй бабулі, бо была памылка ў біяграфіі. Заказваў метрычную кнігу — метрычныя кнігі Бялавіцкай царквы ў Львове, а частка ў Санкт-Пецярбургу. Я ведаў акт аб шлюбе маіх дзеда і бабы. Там пазначаецца: пабраліся ў 1905-м. Дзед запалянец — Здзітавец, а бабуля з Квасевіч, з роду Круглеўскіх.

**— Алесь Фаміч, а ці магчыма без даследаванняў роду развівацца?**

— Маладым гэта не трэба. Маладыя жывуць будучыняй. А старэйшыя аглядваюцца, спрабуюць аналізаваць. Нашы бацькі як жылі: дзе пахаваны, з кім ляжаць, пыталіся. У мяне ў «Чыстым чацвяргу» бабулька ў дачкі жыве, у горадзе. Клуначак прыбрала сабе на смерць. А дачка ўшчувае: «Мама, мне цяжка будзе ездзіць глядзець, прыбіраць магілкі. А тут, у горадзе, я буду часцей хадзіць да цябе…» Ды бабуля гневаецца: «Хай і знаку ад маёй магілы не застанецца, але я буду ведаць, што ляжу сярод сваіх».

**— Падзеяй стала прэзентацыя летась вашай кнігі прыказак у музеі Янкі Купалы ў Мінску.**

— Харошае слова пра маю творчасць сказаў Ніл Гілевіч. У апошнія гады якраз мы з ім і сышліся. Але я верабейчык супраць арла… Вельмі дарагая мне яго ацэнка маёй творчасці. Сам ён не мог быць на прэзентацыі, але даслаў прывітальны ліст. Кніга прыказак выдадзена ў выдавецтве «Тэхналогія». Галоўны рэдактар — Зміцер Санько. Лічу, калі кніга харошая, то гэта народ. Менавіта народ гаворыць харошае: у вочы ліском, а за вочы пяском; у гультая рукі не баляць; што летам нагою, то зімою рукою; як чуюць, то начуюць… Гэта ўсё народнае багацце. Я толькі тлумачу, мае ў кнізе — толькі каментарыі.

**— Не так даўно выйшла кніга «Чысты чацвер», а вы ўжо новую рыхтуеце?**

— Так. «Як адзін дзень» — кніга дакументальная. Бацька казаў часта: «Жыццё — як адзін дзень, не згледзеўся, во, ужо і паміраць трэба». Гэта ўспаміны майго бацькі, чалавека простага, калгасніка. Спрадвечна жыў у сяле, на ўсё здольны. А маці, дарэчы, валодала ўнікальным меца-сапрана, народны голас…

**— Чым яшчэ захапляецеся, акрамя краязнаўства?**

— Вывучаю расліны. Ёсць такая раслінка: цвіце — толькі дакранешся, і ўсе пялёсткі ападуць — недачэпа (дарэчы, якое адметнае беларускае слоўца!). Недачэпа… Колькі дзіва ёсць на свеце!

А яшчэ фотаапарат заўсёды са мной, з малога. Ніхто тады, у 1975 — 76 годзе, не рабіў слайды, а я рабіў, каляровыя. 1000 слайдаў у мяне. Алесь Разанаў падарыў мне фотаапарат «Чайка». І не на 36 кадраў, а 72. Мы ведаем адзін аднаго яшчэ са школы. Ён тут, у Сяльцы, нарадзіўся, а я ў Косаве. А даўней адзіны быў раён — Бярозаўскі. Дарэчы, Алесю Разанаву належыць выказванне: кожны народ мае хоць адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова.

Ды зноў вярнуся да абразкоў з «Чыстага чацвярга». Глядзіце: «Дай што-небудзь кінуць у ваду, а то кіпіць і не гусне». Ну, хто так скажа, хто так скажа, як не беларус? Як не на роднай мове… У двух словах — усё. Адкуль вы — трэба і пісаць на той мове. Нельга яе ні з чым параўнаць, гэтую шырыню і багацце. Нехта знойдзецца, і, можа, я павяду за сабой. Давайце яшчэ паназіраем: «свята» — беларускае слова, а рускае — «праздник». Утворым дзеяслоў: «святкаваць» — «праздновать». А калі пайсці далей, то атрымліваецца: «святасць» — «праздность». Адчулі розніцу? Словаўтварэнне рознае. Наша слова — гэта сумоўе з небам…

**Размаўляла Наталля СВЯТЛОВА**

**Даведка «ЛіМа»:**

*Алесь Фаміч Зайка нарадзіўся 12 жніўня 1948 года ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1966 годзе скончыў Косаўскую сярэднюю школу, у 1971-м — філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Пасля службы ў Савецкай арміі вярнуўся ў родную вёску, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Цяпер загадвае школьным этнаграфічным музеем. Лаўрэат Берасцейскай мядовай літаратурнай прэміі за кнігу «Дым з коміна» (2011). Аўтар кніг у галіне лакальнай этналогіі: «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» (2011), «Населеныя пункты Івацэвіччыны» (2012), «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» (2014), «Прыказкі і прымаўкі… з Косаўшчыны» (2015); «Чысты чацвер» (2015).*

# З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА РАДЗІМА,

## даведаліся падчас сустрэчы з прадстаўнікамі Пастаўшчыны

Напрыканцы лістапада ў Музеі гісторыі музычнай і тэатральнай культуры прэзентаваны новы краязнаўчы праект «Мой род, мой край, мая радзіма». Гэта сумесны праект Беларускага фонду культуры, Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і «Краязнаўчай газеты», скіраваны на папулярызацыю краязнаўчай літаратуры.

Галоўная мэта — прадэманстраваць набыткі мясцовага краязнаўства. Шмат цікавых звестак пра мінулае краіны схавана ў вёсках, мястэчках, райцэнтрах. Намаганні «тутэйшых», зацікаўленых у даследаваннях малой радзімы, павінны дайсці да ўсіх беларусаў. Дзеля гэтага Беларускі фонд культуры вырашыў ладзіць у Мінску тэматычныя сустрэчы, падчас якіх мясцовыя краязнаўцы здолеюць прэзентаваць свае кнігі перад разнастайнай аўдыторыяй.

На думку галоўнага рэдактара «Краязнаўчай газеты», намесніка старшыні Беларускага фонду культуры Уладзіміра Гілепа, краязнаўства не мода, а патрабаванне часу. Памяць пра сваіх продкаў — тое, што трымае на зямлі.

Праект «Мой род, мой край, мая радзіма» пачалі з прэзентацыі менавіта Пастаўскага раёна. На імпрэзу сабраліся выбітныя прадстаўнікі так званага Паазер'я — пісьменнікі, краязнаўцы, навукоўцы. Госці прывезлі мінчанам фотавыстаўку з маляўнічымі краявідамі малой радзімы, паказалі відэафільм пра гісторыю і сучаснасць Пастаўшчыны. У Музеі гісторыі музычнай і тэатральнай культуры выступіў заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь — фальклорны ансамбль «Паазер'е». Беларускі пісьменнік і краязнаўца Ігар Пракаповіч прэзентаваў кнігі пра гісторыю і сучаснасць Пастаўскага краю.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

*Памяць*

# На апошнім шляху

23 лістапада не стала Анатоля Валахановіча, знанага журналіста, краязнаўцы, гісторыка. Усе адзначалі раптоўнасць яго адыходу, і гэта праўда: да апошніх дзён Анатоль Іосіфавіч актыўна ўдзельнічаў у самых розных імпрэзах. І гэта нягледзячы на паважлівы ўзрост — было яму 77 гадоў. Напрыканцы кастрычніка наведаў урочышча Благоўшчына, дзе знаходзіцца крыж Вінцэнта Гадлеўскага. 18 лістапада выправіўся ў літаратурную вандроўку ў Труханавічы, на радзіму Яна Скрыгана, з якім працаваў у свой час у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Пра гэта Анатоль Іосіфавіч распавядаў на святочнай імпрэзе. Як згадвае Лідзія Шагойка, загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Анатоль Іосіфавіч усю дарогу падтрымліваў сяброўскія размовы, хораша выступаў на імпрэзе, выглядаў добра. Аднак перад ад'ездам у Труханавічы згубіўся. Пазней аказалася, хадзіў у аптэку — былі праблемы з сэрцам.

Анатоль Валахановіч пачаў друкавацца яшчэ ў студэнцкія гады, з 1959 года. Яго даследаванні прысвечаныя праблемам гісторыі, літаратуры, культуры і краязнаўства Беларусі. Найбольш значныя тэмы публікацый — палітычныя рэпрэсіі 1920 — пачатку 1950-х гадоў, хрысціянства ў Беларусі. Аўтар звыш 400 артыкулаў у энцыклапедычных выданнях, навуковых зборніках, перыёдыцы.

Пісаў такама мастацкую прозу і дакументальныя нарысы. Пахаваны Анатоль Валахановіч на радзіме, у вёсцы Паўлаўшчына Койданаўскага раёна.

# Тут жыў Караткевіч

Даўно лічылася, што дом, дзе сям'я Уладзіміра Караткевіча здымала жыллё пасля вяртання з эвакуацыі ў 1944 годзе, не захаваўся. Ва ўсіх біяграфічных выданнях пра У. Караткевіча згадвалася, што ў 1944 — 1946 гг. сям'я здымала два пакоі ў доме царкоўнага старасты па вуліцы Пралетарскай, насупраць гарадскіх могілак. Праўда, прозвішча яго не называлася. Вывучаючы ў архіве дакументы пра рэлігійнае жыццё ў Оршы ў ваенны і пасляваенны час, даведаўся прозвішча старасты Петрапаўлаўскай царквы, што была размешчана на могілках па вуліцы Пралетарскай (дарэчы, адна з дзвюх дзеючых у БССР у 1939 г.) — Георгій Сцяпанавіч Марочка. Таму я абышоў усе дамы побач з могілкамі (тут, дарэчы, пахаваны бацька пісьменніка), пагутарыў з іхнімі сённяшнімі гаспадарамі. Ніхто не ведаў нават такога прозвішча. Нічога не далі і пошукі ў архіве БТІ. Тры гарадскія тэлефоны, зарэгістраваныя на прозвішча «Марочка», увесь жнівень маўчалі. У адной з сацыяльных сетак знайшоў Аксану Міхайлаўну Марочка. Яна мне дала тэлефон сваёй цёткі Наталлі Уладзіміраўны Конюшка, якая з'яўляецца роднай унучкай Г. С. Марочкі.

У адну з вераснёўскіх нядзель мы з ёй накіраваліся на вуліцу Пралетарскую. Яна была ў свайго дзядулі вельмі даўно, калі прыходзіла прыбіраць у старога ў хаце. У сямейным архіве Наталлі Уладзіміраўны захаваўся дакумент, у якім яе бацьку, што вярнуўся ўлетку 1944 года з партызанаў, накіравалі жыць у дом 74 па вуліцы Пралетарскай. Уважліва разглядаючы кожны дом па цотным баку вуліцы, мы з ёй дайшлі да дома № 50. «Магчыма, гэты дом», — кажа Наталля Уладзіміраўна. Цiснем на званок. Выходзіць жанчына сталага веку. Пытаемся адразу, у каго яны набылі дом. І тут гучыць прозвішча «Марочка». Вось і гэты дом.



Нумар яго змяніўся яшчэ на пачатку 1950-х гг. Дом драўляны, шаляваны, пафарбаваны, на вуліцу выходзіць чатыры акны. Ён добра захаваўся звонку. Унутры, канечне, усё ўжо пераабсталявана. Паставілі гаспадары і новыя ўваходныя дзверы. Аднак старадаўнія латунныя ручкі засталіся. Адпаліраваныя за дзесяцігоддзі да бляску, яны памятаюць і дотыкі рукі будучага класіка беларускай літаратуры.

Адсюль Валодзя Караткевіч хадзіў вучыцца ў 1-ю беларускую школу. Таксама тут пачаў, відаць, і свой творчы шлях. У 28-й папцы хатняга архіва пісьменніка захоўваюцца ягоныя творы на рускай і беларускай мовах, напісаныя ў першыя пасляваенныя гады. Сярод іх, напрыклад, артыкул пра Францішка Багушэвіча, датаваны 16 сакавіка 1946 г.

Пра сённяшні стан дома распавядала нам ягоная гаспадыня з 1989 года Людміла Георгіеўна Буканава. Праўда, пра тое, што ў яе доме пасля вайны жыла сям'я Караткевіча, яна не ведала. Такім чынам, захаваўся яшчэ адзін дом, дзе пэўны час жыў Уладзімір Караткевіч.

Ці згадваў ён дзе ў творчасці пра сваё жыццё тут? Здаецца, не. Толькі ў лісце да свайго сябра Юрыя Гальперына (1960 г.), апавядаючы пра сваё не вельмі ўдалае заляцанне да маскоўкі Ніны Молевай, Караткевіч са смуткам адзначаў (ліст на рускай мове): «...кажется, скоро возьму и женюсь на просвирне, или на вдове церковного старосты».

Такім чынам, маршрут экскурсіі «Па караткевічавых мясцінах Оршы» трэба дапоўніць адрасам на вуліцы Пралетарскай. А на доме, мяркую, неабходна ўсталяваць памятную дошку.

**Віктар ЛЮТЫНСКІ, *г. Орша.***
**Фота аўтара.**

*Пасля-слоўе*

# Пра сябра



Васіль Ліцьвінка быў чалавекам шчырай душы, улюбёным і адданым народна-традыцыйнай культуры. Вядомы фалькларыст, кандыдат філалагічных навук быў загадчыкам навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта.

У лабараторыі фальклору філалагічнага факультэта БДУ выкладчыкі і студэнты карысталіся здабыткамі народных песень, паданняў, прымавак, варажбы, абрадавых свят. Тут назапашана вялікая колькасць рэгіянальнай мудрасці беларусаў, таму дзверы гэтай скарбонкі амаль не зачыняліся.

Мне пашчасціла працаваць побач з Васілём. У той час я быў навуковым супрацоўнікам, а мой сябра — загадчыкам лабараторыі. Васіль Дзмітрыевіч шмат друкаваўся ў перыядычным друку, выдаваў манаграфіі і кнігі. Вельмі любіў спяваць.

Быў патрабавальны да супрацоўнікаў і студэнтаў, не цярпеў абыякавасці да нашай спадчыны, асабліва да душэўнай народнай песні. Сябраваў з заслужаным артыстам Беларусі, мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята» Васілём Купрыяненкам. Разам яны «зладкавалі» некалькі песень, якія з поспехам выконвалі заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Святлана і Уладзімір Салодкія.

Заўсёды гатовы быў дапамагчы любому фальклорнаму гурту. Пры факультэце навуковай лабараторыі разам з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Міколам Сіротам, прафесарам БДУ культуры і мастацтваў Алегам Аляхновічам, салістам ансамбля «Свята» Станіславам Статкевічам стварылі фальклорны гурт спевакоў і музыкантаў пад кіраўніцтвам Васіля Ліцьвінкі. Галоўнай мэтай нашага гурта было ўслаўляць мілагучнасць народнай песні.

Не ведаю, чаму, але Васіль часта прапаноўваў мне ўзяць удзел у перадачы «Запрашаем на вячоркі». Памятаю, мы былі ў вёсцы Адвержычы Столінскага раёна. Ішлі па вуліцы і раптам Васіль заспяваў, ды так голасна, што бабулькі выйшлі са сваіх хат і пачалі яму падпяваць.

Галоўная мэта жыцця Васіля Ліцьвінкі — узбагаціць народны скарб і перадаць нашчадкам. А нарадзіўся ён у вёсцы Церабяжоў Столінскага раёна. Маці Васіля пры нашай сустрэчы ўспаміала: «Ён з маленства спяваў вядомыя толькі яму песні. А калі падрос, як пачуе, што недзе заспявалі, дык туды і бяжыць». У школьным музеі ёсць яго кнігі, здымкі, іншыя матэрыялы, якія тычацца земляка.

Вельмі паважаюць у вёсцы за голас дзядзьку Сашу, які Васіля навучыў спяваць. Дарэчы, да вясковага спевака прыязджаў запісваць песні Генадзь Цітовіч. Адзін з народных твораў і сёння ў рэпертуары Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь.

Пахаваны Васіль у роднай вёсцы. На магільнай пліце — здымак, на якім ён выглядае як і пры жыцці: у саламянай шляпе, вышытай кашулі…

**Мікола КОТАЎ**

*За падзеяй*

# У гонар земляка

## правялі XII літаратурна-краязнаўчую канферэнцыю ў Лунінцы

Яна была прысвечаная пісьменніку Мікалаю Калінковічу, які быў чэкістам і трагічна загінуў. Дыпломамі яго памяці ўзнагароджваюцца землякі, якія дасягаюць плёну ў прафесіі і творчасці.

Супрацоўнік Лунінецкага аддзялення УКДБ па Брэсцкай вобласці Сяргей Хамук першай уручыў узнагароду настаўніцы гімназіі Галіне Сіманавай, якая 20 год таму арганізавала навуковае таварыства вучняў «Зямляне». За гэты час падрыхтавана шмат даследаванняў, што дазволіла гэтай установе атрымаць вядомасць і на міжнародным узроўні.

Сведчаннем адкрыццяў нашага часу стала прэзентацыя «Уладыка і Песняр». Вераніка Макаловіч распавяла пра ўшанаванне Якуба Коласа архіепіскапам Пінскім і Лунінецкім Сцяфанам. Цікавыя палескія старонкі ў біяграфіі Песняра згадаў журналіст Вячаслаў Ільянкоў.

Падчас канферэнцыі была ўшанавана памяць творцаў пачатку і сярэдзіны XX стагоддзя: мастакоў Георгія і Міхаіла Ішчанкаў, музыкаў Аляксея і Аляксандра Матэусаў, спявачкі Ксеніі Бесан, марафонца Мікалая Адамчыка. Усе яны ў свой час былі героямі нарысаў Мікалая Калінковіча. Узнагароды ў памяць адметных асоб атрымалі аркестр народных інструментаў Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік Мікалай Корчык), настаўніца ДШМ Алена Пятрэнка і інш.

Цяперашні кіраўнік таварыства «Зямляне» Ірына Грушэўская адзначана Граматай Пінскай епархіі. На думку настаўніцы, неабходна зараджацца энергіяй нацыянальных святынь і неабыякавых людзей, каб аднаўляць у грамадстве традыцыйныя маральныя каштоўнасці.

**Тацціяна КАНАПАЦКАЯ**

*Млын навін*

# Сайт гісторыі БДУ

## пачаў працаваць да 95-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

Лёсавызначальныя моманты гісторыі Белдзяржуніверсітэта адлюстраваны праз прызму прафесійнай дзейнасці яго рэктараў, знакамітых супрацоўнікаў і выпускнікоў. Сайт складаецца з чатырох асноўных раздзелаў: «Лінія часу», «Гісторыя БДУ», «Рэктары БДУ», «Музей гісторыі БДУ». Ёсць і каляндар з важнымі падзеямі ў жыцці БДУ. Асаблівая ўвага нададзена перыядам станаўлення ВНУ і дзейнасці ўніверсітэта ў ваенны і пасляваенны час. Распрацавалі сайт супрацоўнікі гістарычнага факультэта, Музея гісторыі Белдзяржуніверсітэта і медыяцэнтра БДУ.

* * *

Турыстычны маршрут па месцах уладальнікаў мястэчка графаў Касакоўскіх распрацавалі ў Бераставіцы. Тут ёсць на што паглядзець! Падчас вандравання пешшу або на роварах можна палюбавацца прыродай бераставіцкага краю і глыбей пазнаць яго гісторыю. У будучыні плануецца ўладкаваць веласіпедныя і пешаходныя дарожкі, абсталяваць пляцоўкі для назірання за птушкамі і інш. Супрацоўнікі Музея вавёркі — аўтары праекта «Музейныя прагулкі па гісторыка-экалагічных маршрутах» — прэтэндуюць на фінансаванне па праграме трансмежнага супрацоўніцтва «Польшча — Беларусь — Украіна» на 2014 — 2020 гады. Музейшчыкі бралі ўдзел у форуме па пошуку партнёраў для сумеснай рэалізацыі праекта, які адбыўся ў Любліне. Шмат каго іх прапанова зацікавіла.

* * *

Незвычайныя героі пасяліліся ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі імя Е. Р. Раманава. Тут адкрылася выстаўка «Старыя героі — новы свет. Героі беларускіх казак, міфаў і легенд». Дамавік і Ёўнік, Шатаны і Злыдні, Жыцень і іншыя персанажы прадстаўлены ў экспазіцыі, створанай у межах рэалізацыі аднаго з этапаў праекта *LIPA. CLUB*, галоўная мэта якога — папулярызацыя беларускага сучаснага мастацтва ў свеце.

На выстаўцы можна ўбачыць 12 арыгінальных графічных работ мастака Валерыя Славука і 11 аб'ёмных фігур скульптара Антона Шыпіцы. Своеасаблівым дадаткам да экспанатаў сталі выданні з фондаў Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, кніжныя ілюстрацыі да іх стварыў Валерый Славук.

# Лабараторыя інтэлектуальнага пад'ёму,

## альбо Чаму мастацтва павінна нараджаць ідэі



*Ганна Сілівончык «Геліятрапізм», 2016 г.*

**У Год культуры сезон маштабных мастацкіх праектаў Палаца мастацтваў завяршаецца адной з галоўных падзей у творчым жыцці Беларусі — V біенале жывапісу, графікі і скульптуры. Дзвесце пяцьдзясят мастакоў прадставілі каля чатырохсот мастацкіх работ, створаных за апошнія два гады.**

Хочацца ўгледзецца, запомніць імёны творцаў, назвы работ, але, на жаль, не ўсе яны пазначаны. Гэта замінае ўспрымаць творы: калі ведаеш чый твор, прасцей аналізаваць канцэпцыю, пранікаць ва ўнутраную прастору кампазіцыі. Але трэба чакаць: прадстаўлена лепшае, што ёсць у мастацтве краіны, што натхняе на разважанні па тэмах нацыянальнай культуры.

Сёлета біенале ў Беларусі адзначае першы юбілей. Гэта добрая нагода прасачыць дынаміку ў сучасным мастацкім працэсе. На гэты конт беларускі мастак, намеснік старшыні па выставачнай дзейнасці Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў адзначыў:

— Ідэю стварэння біенале падаў Аляксандр Цімохаў. Біенале — самы высокі ўзровень, на які прэтэндуе айчынны мастак. Больш прафесійных выставак у краіне няма. А паколькі ўдзельнікаў з кожным разам становіцца больш, ды імёны — гучнейшыя, ці не гэта сведчыць пра дынаміку?

Выстаўка цяпер на новым узроўні: творцы адказныя за навізну, актуальнасць вялікая. Слабае мастакі не прыносяць, толькі ў наіўных можа ўзнікнуць думка, што праскочыць. Прагрэс навідавоку: цяпер мастакоў нічога не стрымлівае. Калі раней былі ідэалагічныя прынцыпы, заціснутасць, мастак пра сябе не мог многа казаць творамі, сёння іншая справа: творцы акцэнтуюць увагу на праблемах грамадства, не баяцца адкрыта дэманстраваць важныя тэмы. У Палацы мастацтваў вы не сустрэнеце ніводнага твора без інтэлектуальнага складніка. Тут не проста назіранні мастакоў, а асэнсаванне жыцця, меркаванні, праваакцыйныя пытанні гледачу. Новы ўзровень: аўтары актыўна заклікаюць да дыялогу. Ды і сам глядач цяпер прыходзіць не толькі за прыгажосцю, а шукае адказы, унікае ў сітуацыю, якую адлюстроўваюць творцы. На вашых вачах літаральна ствараецца «лабараторыя» інтэлектуальнага пад'ёму. Мастак не зацікаўлены казаць адкрыта, ён не ставіць кропку, як раней, а выклікае нас на праваакцыю. Гэта сістэма, якая зацікаўлівае і займае важнае месца ў сучасным мастацтве. Айчынная творчасць не вымірае, не губляецца, тым больш калі ўспомніць, што аўтарам не плацяць за тое, што яны ствараюць. Гэта цалкам энтузіязм, патрабаванне душы. Мастак не думае, ці зможа пасля прадаць работу. Пытанне пра творчасць для яго значна вышэй. Наогул, сёння мастакам не прыходзіцца замаўляць карціны, тлумачыць, як зрабіць, яны самі актыўна ўліваюцца ў працэс і ўсё робяць з душой.



*Уладзіслаў Стальмахаў «Музыка», 2015 г.*

Варта згадзіцца з Леанідам Хобатавым, што большасць мастацкіх твораў сапраўды дыялагічныя і загадкавыя. Каля некаторых карцін, здаецца, можна стаяць гадзінамі, спрабуючы разабрацца не толькі ў тэматычным складніку, але і ў канцэпцыі стварэння твора. Працэс зацягвае. Здаецца, выстаўка падзяляецца на дзве часткі: першая — фантастычнае адлюстраванне свету, другая (у меншай ступені) — пазіцыяніраванне традыцый і культуры нашага народу (такіх палоцен няшмат, але моцныя). Напрыклад, адна з цэнтральных работ біенале — трыпціх «Вербная нядзеля» Уладзіміра Тоўсціка. Мастак падзяліўся меркаваннем наконт недахопаў у развіцці сучаснага айчыннага мастацтва:

— Сёння творцы сустракаюцца з крытыкай. Кажуць, што сучаснага мастацтва няма, але гэта глупства. Розныя народы жывуць па-рознаму і час выкарыстоўваюць так, як ім трэба. Напрыклад, Амерыка, можна казаць, адной нагой у дваццаць другім стагоддзі, а Беларусь спрабуе ўжывацца ў сучаснасць, і нічога дрэннага ў гэтым няма. У кожнай нацыі — асабісты парадак развіцця. У беларусаў, праўда, ёсць адзін класічны недахоп: лічым сябе слабымі, адсталымі. Гэты комплекс непаўнавартаснасці склаўся гістарычна, нам заўсёды думаецца, што там за гарой лепш. Заўважце, які б беларус не з'ехаў за мяжу, там ён адразу геній, што б ні рабіў. Таму, напэўна, не ў месцы справа. Мастацтва павінна быць розным. Мы імкнёмся быць еўрапейскімі, амерыканскімі, а ёсць жа, напрыклад, і мастацтва Усходу, якое таксама моцнае. Дык чым беларускае мастацтва горшае? Гэта вельмі тонкі момант: у пагоні за каштоўнасцямі і «дарамі» іншых нацый галоўнае — не згубіць роднае. Не павінна быць спекуляцый на тым, што лепшае тое, што моднае. Мастацтва павінна нараджаць ідэі, а не толькі эфектам «пахнуць». Напрыклад, прадстаўлены тут твор «Рымскія развалiны» — гэта перажытае і не нашым народам. Што мне, беларусу, пра гэта думаць? Трэба ўзгадваць сваю гісторыю, якая яшчэ не раскрытая... Аднойчы мне задалі пытанне, ці не лічу я, што мастацтва згубіла свае якасці і цяпер вядучыя пазіцыі займае кінематограф? Прабачце, як можна пра гэта ўвогуле казаць? Ці магчыма было зняць Сяргею Бандарчуку «Вайну і мір» без мастацкіх твораў Васіля Верашчагіна? Адкуль узяліся амерыканскія фільмы пра Спартака? Матэрыял жа праглядваецца ў выяўленчым мастацтве. Касцюмы, хатняе ўбранства, традыцыі, культура — усё з мастацтва. Таму і беларусам трэба памятаць пра свае карані і ствараць умовы для ўспрымання культуры, традыцый і гісторыі нашчадкамі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Прыцягненне

## да мастацтва, што змяняе жыццё да лепшага

**Сёлета ўвосені сталічная публіка магла назіраць шмат разнастайных выставачных праектаў таленавітых мастакоў, дызайнераў, скульптараў і графікаў, у тым ліку творцаў з сусветнай славай. Выстаўку Пабла Пікаса, Хуана Міро і Васіля Кандзінскага ў мастацкай галерэі «Дом карцін» можна яшчэ заспець да 11 снежня. Гэта своеасаблівы працяг праекта мінулага года, калі ў Дом карцін прывезлі графіку Марка Шагала, эстампы Сальвадора Далі і аплікацыі з каляровай паперы Анры Мацiса. У экспазіцыі — графіка і афорты.**

Пікаса, Міро, Кандзінскі — прозвішчы майстраў, якія зрабілі пераварот, сапраўдны выбух у мастацтве XX стагоддзя, задалі тэмп развіцця мадэрнізму і паўплывалі на мастацкае светабачанне таго пакалення. Але ж цікава, наколькі гэта кранае сучаснага беларускага гледача? Дырэктар мастацкай галерэі «Дом карцін» Вольга Кліп гаворыць:

— Беларускаму гледачу трэба з чагосьці пачынаць, і я лічу, што менавіта з класікі. Ці гатовы беларускі глядач да сусветнага сучаснага і актуальнага мастацтва, пакуль адказаць не магу. Але класіку дваццатага стагоддзя прыняць варта, хоць для нас гэта ўсё яшчэ нязвыклыя воку формы. Мы імкнёмся да фігуратыву, жывапіснага рэалізму, але сусветнае мастацтва ўжо даўно ад гэтага адышло. На прыкладзе такіх гучных прозвішчаў, як Пікаса, Кандзінскі, Міро, наша галерэя прапануе пазнаёміцца з формамі мастацтва XX стагоддзя. Гэтыя мастакі — рэвалюцыянеры, яны верылі, што мастацтва можа змяніць жыццё да лепшага, таму варта паспрабаваць зразумець іх.

За два тыдні працы выстаўка выклікала вялікую цікавасць у сталічнай публікі. Па словах Вольгі Кліп, пазнаёміцца з экспазіцыяй шмат ахвотных, і цікава, што большасць не маюць дачынення да мастацтва як да прафесіі, многія прыходзяць сем'ямі. Наведвальнікам важна не проста паглядзець творы, але разабрацца, адчуць энергетыку аўтара, зразумець задуму. І ў гэтым якраз ім дапамагаюць дадатковыя мерапрыемствы, арганізаваныя ў межах праекта «Вялікія класікі XX стагоддзя». Так, напрыклад, дзве апошнія нядзелі ў «Доме карцін» праходзілі лекцыі, прысвечаныя Пабла Пікаса і Хуану Міро (лекцыя пра Васіля Кандзінскага адбудзецца 4 снежня).

— Нашы лекцыі і дадатковыя адукацыйныя мерапрыемствы дапамагаюць зразумець асобу мастака, — адзначае Вольга Кліп. — Напрыклад, падчас лекцыі, прысвечанай Пабла Пікаса, лектар Аксана Коўрык тлумачыла прысутным сэнс фразы мастака «У чатырнаццаць гадоў я маляваў як Рафаэль, але мне спатрэбілася ўсё жыццё, каб навучыцца маляваць як дзіця». Спасылаючыся на канкрэтныя факты з жыцця Пабла Пікаса і яго малюнкі, яна змагла зацікавіць слухачоў, уразіць своеасаблівымі адкрыццямі наконт магчымасцей аўтара. І гэтыя моманты, я ўпэўнена, адкладуцца ў памяці назаўсёды.



*Васіль Кандзінскі «Чырвоная пляма», 1957 г.*

Такія праекты, як «Вялікія класікі XX стагоддзя», неабходныя беларускаму грамадству, каб ведаць і асэнсоўваць працэсы ў сусветным мастацтве, што паўплывалі і на творчасць беларускіх аўтараў. Па меркаванні Вольгі Кліп, гэта выстаўка патрэбная для маладога пакалення: у многіх сем'ях дзеці добра малююць, але ж не заўсёды маюць уяўленне пра гісторыю сусветнай мастацкай культуры нават базісна, таму ім складана зразумець, у якім напрамку рухацца.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Ад гістарычнай батлейкі да сучасных прафесіяналаў

**На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў чацвёрты раз абвясцілі пераможцаў Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Нягледзячы на тое, што большая частка ўзнагарод дасталася мінскім тэатрам (на другім месцы па колькасці статуэтак — Магілёў), жыхары сталіцы атрымалі рэдкую магчымасць пазнаёміцца з лепшымі набыткамі тэатральнага рэпертуару абласцей. Падчас фестывальнага тыдня на мінскіх пляцоўках можна было ацаніць спектаклі з Брэста, Магілёва, Гродна і нават прадстаўніка беларускага Палесся — горада Пінска. Купалаўскі тэатр падышоў да арганізацыі фінальнай імпрэзы вельмі адказна. Мерапрыемства зладзілі ў адной тэматычнай плыні: на сцэне ўзгадалі тэатральную спадчыну Беларусі, якая адыграла значную ролю ў развіцці сучаснага сцэнічнага мастацтва. «Беларусь была тэатральнай дзяржавай яшчэ з часоў Вялікага Княства Літоўскага», — зазначыла артыстка тэатра імя Янкі Купалы і вядучая імпрэзы Валянціна Гарцуева. Разам з гасцямі і ўдзельнікамі Нацыянальнай тэатральнай прэміі вядучыя цырымоніі выправіліся ў падарожжа па творчым мінулым нашай краіны. Паглядзелі на выступы старажытнай батлейкі, наведалі першае тэатральнае прадстаўленне на школьнай сцэне ў Полацкім езуіцкім калегіуме, зазірнулі ў нясвіжскі прыгонны тэатр князёў Радзівілаў, згадалі значную спадчыну першай жанчыны-драматурга на прасторы ВКЛ Францішкі Уршулі Радзівіл, адзначылі вялікі ўнёсак кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, ушанавалі бацьку прафесійнага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага, падзівіліся багатай гісторыі беларускай тэтральнай культуры…**

**Ганаровы абавязак — непасрэднае ўручэнне статуэтак-буслоў лаўрэатам прэміі — дэлегавалі вядомым беларусам. Сярод іх — заслужаныя і народныя артысты Рэспублікі Беларусь, любімыя тэлевядучыя ды грамадскія дзеячы краіны. Дадатковыя ўзнагароды перадалі старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў.**

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Сцэна са спектакля «».*

## Пераможцы IV Рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія»:

### ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР

**Найлепшы спектакль тэатра драмы — «Чайка»**, рэж. Мікалай Пінігін, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі тэатра драмы — Марына Дзянісава** за выкананне ролі Першай жанчыны ў спектаклі «Ілюзіі», Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь і Цэнтр эксперыментальнай рэжысуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі тэатра драмы — Іван Трус** за выкананне ролі Васіля Познышава ў спектаклі «Крэйцарава саната», Магілёўскі абласны драматычны тэатр.

### ЛЯЛЕЧНЫ ТЭАТР

**Найлепшы спектакль тэатра лялек — «ФРО»**, рэж. Руслан Кудашоў, Брэсцкі тэатр лялек.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі тэатра лялек — Аксана Чывялёва** за выкананне ролі Фро ў спектаклі «Фро», Брэсцкі тэатр лялек.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі тэатра лялек — Мікалай Сцешыц** за выкананне ролі Лукі ў спектаклі «На дне», Магілёўскі абласны тэатр лялек.

### ОПЕРА

**Найлепшы оперны спектакль — «Царская нявеста»**, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі оперы — Аксана Волкава** за выкананне партыі Кармэн у оперы «Кармэн», Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі оперы — Станіслаў Трыфанаў** за выкананне партыі Гразнога ў оперы «Царская нявеста», Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

### БАЛЕТ

**Найлепшы спектакль балета — «Маленькі прынц»**, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі балета — Людміла Хітрова** за выкананне партыі Лаўрэнсіі ў балеце «Лаўрэнсія», Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі балета — Канстанцін Героник** за выкананне партыі Маленькага прынца ў балеце «Маленькі прынц», Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

### МУЗЫЧНЫ ТЭАТР

**Найлепшы спектакль музычнага тэатра — «Мая цудоўная лэдзі»**, Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі музычнага тэатра — Лідзія Кузьміцкая** за выкананне ролі Соф'і ў спектаклі «Вяселле ў Малінаўцы», Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі музычнага тэатра — Віктар Цыркуновіч** за выкананне ролі Палкоўніка Х'ю Пікерынга ў спектаклі «Мая цудоўная лэдзі», Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр.

### ТЭАТР ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

**Найлепшы спектакль для дзяцей і юнацтва — «Самы маленькі самалёт на свеце»**, рэж. Ігар Казакоў, Магілёўскі абласны тэатр лялек.

**Найлепшая жаночая роля ў спектаклі для дзяцей і юнацтва — Таццяна Дзенісенка** за выкананне ролі Маленькага самалёта ў спектаклі «Самы маленькі самалёт на свеце», Магілёўскі абласны тэатр лялек.

**Найлепшая мужчынская роля ў спектаклі для дзяцей і юнацтва — Сяргей Талкач** за выкананне ролі Клоўна Піка ў спектаклі «Горад клоўна Піка», Беларускі тэатр «Лялька».

### ДАДАТКОВЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

**Найлепшая пастаноўка па творы беларускага аўтара — «Пясняр»**, (рэж. Валянціна Еранькова) паводле п'есы Васіля Дранько-Майсюка, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага.

**За ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва — Аляксей Дудараў.**

**Мецэнат тэатра — Сяргей Пісарык**, Адкрытае акцыянернае таварыства «Ашчадны банк "БЕЛАРУСБАНК"».

***P.S.:*** *Больш падрабязна пра вынікі Нацыянальнай тэатральнай прэміі мы раскажам у наступным нумары.*

***ВыДАТна***

## Проста Марыя

### З талентам узроўню Купалаўскага

Яна ўмее іграць ролі простых жанчын, пры тым, што для шматлікіх аматараў тэатра з'яўляецца зоркай. Але не далёкай і недасяжнай, а сваёй і вельмі блізкай, святло якой сапраўды саграваe. Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч напрыканцы лістапада адзначыла 80-годдзе. Актрыса, якая знайшла ці не галоўнае для чалавека сваёй прафесіі, — свой тэатр — служыць у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Янкі Купалы. У тэатр яна прыйшла ў 1957 годзе пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, застаецца яму верным усё жыццё.

Марыю Захарэвіч можна бачыць на сцэне ў спектаклях бягучага рэпертуару, напрыклад, у славутай «Паўлінцы» і ў сучасным спектаклі «Не мой» паводле А. Адамовіча і іншых. За багатае творчае жыццё ў яе было шмат роляў, але ва ўсіх яна паўставала прыцягальнай і вельмі шчырай жанчынай. Але ёсць у яе яшчэ адна асаблівая місія: несці высока беларускае слова — ці то з Купалаўскай сцэны, ці то ў паэтычным тэатры, дзе яна ўдзельнічае, ці падчас шматлікіх творчых сустрэч. Адна з іх чакае чытачоў нашай газеты ў наступных нумарах.

***Не праміні́це!***

## Пачуццёвасць «Санетаў»

### Шэкспір на мове беларускага балета

У першыя дні снежня на сцэне Вялікага тэатра Беларусі адбылася першая балетная прэм'ера сезона. Ідэя пастаноўкі належыць Аляксандры Ціхаміравай (дарэчы, яе пастаноўка «Маленькага прынца» адзначана Нацыянальнай тэатральнай прэміяй), на гэты раз яна стала аўтарам лібрэта, харэаграфіі і сцэнаграфіі новага балета «Санеты». Ён створаны на музыку брытанскіх кампазітараў Пітэра Уорлака і Ральфа Воана-Уільямса, але скіроўвае ў эпоху Шэкспіра.

Дырыжор-пастаноўшчык спектакля Іван Касцяхін адзначае і «Стылізацыі ў духу Позняга Сярэднявечча сталі вельмі папулярныя ў музыцы XX стагоддзя: вызначыўся цікавы паварот у фантастычную казачнасць, і музыка, што прадстаўляе яе, пачала вылучацца, я б сказаў, у асобны кірунак. Пітэр Уорлак і Ральф Воан-Уільямс працавалі менавіта ў гэтым музычным стылі. Музыка гэтакая ж добрая, як і шэкспіраўскія тэксты: кантрастам мужнай суровасці і вельмі асцярожнай далікатнасцю ўнутраных сэнсаў». Сэнсы закладзены Шэкспірам, але інтэрпрэтаваныя са зваротам да сучасных людзей. Дух і настрой, што адпавядае часам Шэкспіра, дапамагла стварыць мастак па касцюмах Кацярына Булгакава.

Санеты Шэкспіра — гэта асобныя вершы, аб'яднаныя агульнай ідэяй. Таксама і спектакль «Санеты», паводле задумы, складаецца з асобных нумароў, якія маюць свае назвы, але аб'яднаны адзінай тэмай, адной сэнсавай задачай, агульнымі героямі. Але сам балет бессюжэтны і камерны. Пачынаецца ён з шэкспіраўскага санета № 25, а санет № 27 яго завяршае. Але самае цікавае разгортваецца паміж імі: харэаграфічная кампазіцыя з нумароў, дзе віруюць пачуцці, адлюстраваныя ў знакамітых 154 санетах Шэкспіра. Героі — Паэт і яго чатыры музы: Любоў, Мара, Белы анёл і Чорны анёл (як увасабленні двух супрацьлеглых пачаткаў у чалавечым свеце). Паводле задумы Аляксандры Ціхаміравай, на сцэне побач з Паэтам знаходзіцца яго асяроддзе, якое ёсць у кожнай творчай асобы: тыя, хто аднолькава ўмеюць спяваць дыфірамбы і распускаць плёткі, быць побач з творцам ці ганьбіць яго. Лёс творцаў у любыя часы…

**Марыя АСІПЕНКА**

# Блізкасць

## Дакументалістыка, якую мы заслугоўваем

**Беларуская дакументальная праграма «Лістапада» сёлета паказала, што цяперашняя рэчаіснасць можа быць цікавай гледачу. Нягледзячы на цяжкасці як візуальнага ўспрымання, так і псіхалагічнага. Усё ж тое, што можна ўбачыць у гэтых стужках, неверагодна блізкае нам. І гэта блізкае айчынныя рэжысёры адлюстроўваюць не ў мастацкіх стужках, а менавіта ў дакументальных, бо захаваць сапраўднасць моманту ў такім кіно, злавіць атмасферу, высачыць героя — задача ў першую чаргу фільмаў неіграгвых. Сёлета на «Лістападзе» можна было пераканацца: з гэтым беларускія дакументалісты паспяхова спраўляюцца.**



*Кадр з фільма «Саламанка» (рэж. Р. Фядотаў, А. Кулак).*

### МЕСЦА, ДЗЕ СПЫНІЎСЯ ЧАС

Хоць пра блізкасць «Саламанкі» беларускаму гледачу не раскажаш, але менавіта гэтае кіно стала пераможцам нацыянальнага конкурсу дакументальных стужак. Гэта гісторыя пра мексіканскае паселішча менанітаў Саламанка, пра яго жыхароў і тое, як бавяць час людзі, якія жывуць далёка ад звыклай для нас цывілізацыі. Кіно ўжо паказвалі на расійскім фестывалі «Артдокфэст» і на Амстэрдамскім фестывалі дакументальнага кіно (дарэчы, на апошні яго прынялі не адразу: напэўна, не вельмі ўважліва глядзелі).

Чорна-белая, як адзначаюць крытыкі, «Саламанка» адсылае да «Белай стужкі» Ханэке, дзе распавядаюць пра далёкае мінулае, але тут мы бачым сучаснасць, у якую жыхару, напрыклад мегаполіса, паверыць будзе цяжка. Такое здараецца падчас прагляду: часам, знаходзячыся пад уражаннем, у многае з таго, чаго не было, можна паверыць (як паверыць у тое, што мы «Першыя на Месяцы» (стужка Аляксея Фядорчанкі). А тут бок адваротны: рэальнасць, якую паказваюць Руслан Фядотаў і Аляксандра Кулак у «Саламанцы», для нас не існуе, яе не ўбачыш у паўсядзённасці, на тэлебачанні, і толькі зрэдку — у кінатэатры.

«Саламанка» — стужка пра тое, як людзі, жывучы дзесьці ў Мексіцы, зберагаюць свае традыцыі і права на спакойнае жыццё. Дарэчы, рэжысёры нікому не расказалі, дзе ж знаходзіцца Саламанка: на карце яе няма. Бо ім таксама не хочацца парушаць той рытм жыцця, тыя прынцыпы і правілы, якія склаліся ў людзей, пра якіх мы даведваемся з вялікага экрана. Здавалася б, чым можа прывабіць беларускага гледача гэты фільм? А менавіта тым, што кожны з нас жадае ціхага жыцця, не парушаць свой рытм — мы такія ж, як і мексіканскія менаніты. Заўсёды цікава, як жывуць там, па той бок акіяна.

### ЖАДАННЕ ВЯРНУЦЦА

Дзмітрый Махамет гаворыць пра падобныя рэчы, але іншай кінамовай — каляровай, зразумелай беларусу, пейзажнай. І вось тут паняцце блізкасці не адноснае: рэжысёр здымаў стужку пра сваю сям'ю, пра бабулю і яе летнія «канікулы» ў вёсцы.

«Ты сюды больш не вернешся» — асабістая гісторыя, але разам з тым кіно, якому ёсць месца амаль у кожнай сям'і з нашай краіны. Вёска, якая заўжды прыцягвае нашых бабуль, але для нас — чужая і часам непрывабная, тут паказана сапраўдным домам: гераіня, якая прыязджае сюды на лета, спрабуе выратаваць амаль памерлую хату, быццам вярта час. І сваёй маладосці, і мінулага нашых бацькоў.

У рэжысёра атрымалася выклікаць менавіта тое пачуццё — настальгічнае, суперажывальнае. Глядач назірае за тым, як гераіня бесперапынна шукае галінкі, трымаецца за вясковае жыццё, наталяецца роднай зямлёй. І, убачыўшы гэта ў стужцы, рэфлекторна перажываеш, узгадваеш сваю маладосць.

### ПАДАРОЖНІЧАЦЬ ПА РАДЗІМЕ

Крэўскі, Быхаўскі, Гальшанскі — усе гэтыя замкі можна ўбачыць амаль за гадзіну. Блізкія па тэме, гэтыя фільмы дыяметральна супрацьлеглыя тым, якімі паказаны замкі. Гледача чакае падарожжа па гэтых вядомых, але ненаведаных помніках.

Вольга Дашук у сваім «Крэўскім замку» распавядае гісторыю магутнага, багатага на падзеі і людзей будынка праз прызму думак жыхаркі Крэва. Рэжысёр знайшла менавіта тую аўтэнтыку, якая б звязала сучаснасць з мінуўшчынай, гледача — з замкам. Легенды, расказаныя жанчынай, яе думкі пра Крэва, яе маленечкая постаць на фоне хоць разбураных, але ўсё такіх жа надзейна-магутных сцен замка, гавораць пра тое, што гісторыя мёртвай не бывае: ёй пранізаны не толькі будынкі, але і чалавечыя лёсы.

«Прыгоды ў Быхаўскім замку» Кацярыны Махавай — дакументалістыка + анімацыя. Барочны замак з магутнымі фортамі калісьці быў сапраўдным гонарам айчыннага дойлідства. Былі часы, калі пра яго складалі легенды. Але цяпер замак у заняпадзе. Яго багатую гісторыю рэжысёр расказвае і праз непасрэдную экскурсію па тых пакоях, якія яшчэ засталіся, і праз гістарычныя падзеі, паказаныя анімацыйна. У фільме сапраўды адчуваецца неверагодная, часам каралеўская, атмасфера часоў велічы Быхаўскага замка, але і шкадаванне пра страту гэтага цудоўнага напаміну пра беларускую гісторыю.

Гальшанскі палац быў узведзены як абарончае збудаванне і як замак. Паяднанне магутнасці і прыгажосці далі палацу і народную назву — «Каменная кветка». Юрый Цімафееў у сваім «Гальшанскім замку. Імгненне» ўзгадвае, што засталося ад былога хараства легендарнага замка. Пярліна беларускага дойлідства ў стужцы ахутана туманам, выглядае казачнай і быццам не існуе ў сапраўдным жыцці: праз «попел стагоддзяў» захаваліся толькі цагляныя сцены і безліч легенд.

У гэтым падарожжы па беларускай зямлі, у гэтай мазаіцы з найпрыгажэйшых мясцін не хапае аднаго элемента — «Друі». Праз раку адсюль — Латвійскі бок. Друя была легендай нашай Радзімы: Напалеон Орда маляваў тут свае карціны. Друя наогул заўжды быццам «вабіла» мастакоў: мясціны тут багатыя на прыгажосць. Ілья Бажко ў сваёй стужцы расказаў пра Друю праз гісторыю мінскай мастачкі, якая прыязджае сюды за натхненнем, малюе для мясцовага касцёла абраз і сваёй працай спрабуе адбудаваць былое хараство гэтага месца.




*Кадр з фільма «25» (рэж. А. Куціла).*

### РУХАЦЦА ДАЛЕЙ

Беларусь гістарычная саступае месца таму, што адбываецца цяпер, што чакае нас пасля. Героі, якіх знаходзяць айчынныя рэжысёры, бывае, балансуюць на мяжы сваіх сіл, на скрыжаванні, калі трэба вырашаць, куды рухацца далей.

«200 000 абаротаў» — якраз такое кіно, пра рух. І рух не толькі ў класічным разуменні, але рух псіхалагічны. Змены ў жыцці героя стужкі Сашы Аўдзевіча моцна адбіліся і на яго будучыні, адмыслова — і на марах. Пасля аварыі хлопец застаўся напалову паралізаваным, але гэта не стала перашкодай для яго жадання. Напрыклад, здзейсніць падарожжа да Балтыйскага мора.

На авантуру героя стужкі прыйдзецца пайсці і гледачу: увесь час ён будзе рухацца разам з Сашам, бачыць яго эмоцыі, суперажываць і нават падбадзёрваць. Але галоўнае — будзе адчуваць гонар за чалавека, які аказаўся здольным на ўчынкі, падуладныя не кожнаму. Падчас свайго, здавалася б, невялічкага падарожжа, Саша пераадолеў 5000 кіламетраў, адпаведна і 200 000 абаротаў рукамі. У беларускім кіно прыйшла чарга апавядаў пра людзей моцных — не толькі фізічна, але і маральна.

Падарожжы на адлегласці, але разам з тым і ў глыбіні сваёй свядомасці сталі добрай традыцыяй беларускай дакументалістыкі. І гэта выклікае эмоцыю, ставіць пад удар пачуцці гледачоў і ўражанні — тое, што блізкае для нас, прымушае даверыцца і задумацца… А часам і дакрануцца. Як гэта зрабіў Андрэй Куціла ў стужцы «25».

Фільм пра першае пакаленне тых, хто вырас у суверэннай Беларусі, стаў энцыклапедыяй уласна гэтага пакалення. «25» — яшчэ маладосць, але ўжо адказнасць, незалежнасць і непазбежнасць выбару. Героі стужкі — на геаграфічнай, псіхалагічнай і перспектыўнай адлегласці адзін ад аднаго. Тут і жыхары Баранавічаў, Мінска, Магілёва, Чапялёў, Гомеля. Тут і інжынеры, і супрацоўнікі індустрыі прыгажосці, і жанчыны ў дэкрэце, і фермеры, і прарабы. Яны па-рознаму ўладкаваліся ў жыцці... Калі ў іх ёсць праца, гэта яшчэ не значыць, што ёсць псіхалагічная стабільнасць, — героі стужкі Куцілы прагнуць зменаў у жыцці. Баранавіцкі інжынер Дзіма, па сумяшчальніцтве музыкант, вось-вось атрымае амерыканскую візу, Крысціна пераехала ў Мінск з Бельгіі, бо не хоча там жыць, а тут выхоўвае сына і дачку. Яна чакае з'яўлення сына. Саша з жонкай і дзіцём жывуць размераным жыццём у вёсцы Салігорскага раёна, а Ілья перыядычна ездзіць на заробкі ў Маскву. Беларусам з іх праблемамі і жаданнямі ў фільме даецца слова: яны паводзяць сябе так, як у жыцці, не іграюць на камеру, часам адчайныя, апантаныя, шчаслівыя. «25» — узрост як для краіны, так і для чалавека, яшчэ малады.

### ЖЫЦЦЁ ЯК ФІЛЬМ

У кіно адлюстроўваецца рэчаіснасць. А кіно ў кіно — рэдка. «Масоўка. Буйны план» — спроба рэжысёра выправіць непаразуменне. У некаторыя моманты ўзнікае пачуццё зайздрасці да акцёраў. Праца, якую яны робяць, працай нам не падаецца, разам з тым, яны атрымліваюць грошы і папулярнасць. Але ці так гэта? Аляксандр Зубаўленка ў сваім фільме вырашыў адлюстраваць адваротны бок акцёрскай прафесіі: ён гаворыць не пра тых, каго мы бачым у свецкіх хроніках і на чырвоных дарожках, а пра тых, на каго мы наогул не звяртаем у кіно ўвагі. Масоўка — гэта тыя ж самыя амбіцыйныя акцёры, якім бы хацелася выконваць галоўныя ролі, трапляць на вокладкі глянцу, прымяраць святочныя ўборы. У стужцы рэжысёр паказвае акцёраў масавых сцэн яшчэ і ў псіхалагічным разрэзе: глядач атрымлівае адказы на пытанне «А навошта гэта ім трэба?» і знаёміцца з пазакамернымі праблемамі акцёрскай прафесіі.

Калі не звяртаць увагі на тое, што ўсе гэтыя стужкі — дакументальныя, можа падацца, што ў сцэнарыстаў багатая фантазія. Гэта ж трэба прыдумаць такіх герояў! Але жыццё само падказвае і герояў, і падзеі, і гісторыі. Нам застаецца толькі сачыць за тым, што ж адбываецца ў дакументальным кіно, а згодна з гэтым — і ў жыцці. Каб нічога вартага ў гэтым шпаркім рытме не абмінуць.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Адчуваць бясконцую радасць

## прапануе аўстрыйская піяністка Агнэс Вольф

**У Беларускай дзяржаўнай філармоніі 6 снежня слухачоў пазнаёмяць з музыкай, якая пасуе святочнаму зімоваму настрою, — з нямецкай і аўстрыйскай рамантыкай. Артысты лепшых венскіх аркестраў — Ёханэс Флейшман (скрыпка), Магдалена Эбер (альт), Ян Рыска (віяланчэль), Ёханэс Кнаўэр (кантрабас) і Агнэс Вольф (фартэпіяна) — выступяць на мінскай сцэне. З гэтай нагоды — размова з піяністкай Агнэс Вольф пра рамантычную музыку.**


*Піяністка Агнэс Вольф.*

Яна вучылася ў Венскім універсітэце музыкі і выканальніцкага мастацтва, ужо ў 16 год дэбютавала ў Венскай канцэртнай зале, а зараз дае канцэрты па ўсім свеце. У яе музыцы адчуваецца ўнутраная супярэчнасць, уласцівая перыяду рамантызму, які не пакідае чалавека і цяпер (асабліва гэта чуецца ў музыцы Шумана ў выкананні Агнэс Вольф). Падчас выканання піяністка перажывае гаму пачуццяў: «Кожны дзень на нас звальваецца лавіна інфармацыі, і вельмі цяжка знайсці свой шлях. Музыка Шумана таксама выяўляе няспакойнасць і неспакой. Тым не менш чутны і іншыя элементы — задуменнасць, паглыбленне ў сябе. Неад'емная частка рамантызму — летуценнасць. Мне здаецца, у нашым імклівым жыцці важна стварыць для сябе "аазіс спакою"».

Маленькай Вольф выкладалі вядомыя майстры фартэпіяннай музыкі. Дзяўчынка перамагала на міжнародных музычных конкурсах. Слухачы называюць артыстку «вундэркіндам», але… «Маім бацькам было важна, каб я развівалася рознабакова, менавіта такі падыход мяне заахвоціў і ўмацаваў жаданне прысвяціць сябе музыцы, — гаворыць яна. — У мяне ёсць доўгі "спіс музычных твораў", якія я хацела б выканаць. Сярод іх — песенныя цыклы Шуберта і Шумана, некалькі партый сола і бясконца шмат твораў камернай музыкі. Хацела б пажадаць сабе пастаянна ўдасканальвацца і мець магчымасць выпрабаваць унікальныя перажыванні, якія выклікаюць музыка і людзі».

Агнэс Вольф адчувае сябе шчаслівай, калі можа атрымліваць асалоду ад імгнення, — забываючыся, губляючы пачуццё часу і месца. І такія моманты, як правіла, чакаюць піяністку ў музыцы. Ёсць меркаванне, што без пакут стаць творцам немагчыма. Вольф лічыць, што гэта ўсяго толькі рамантычны стэрэатып: «Магчыма, творца адрозніваецца ад "простага смяротнага" сваёй выключнай адчувальнасцю, здольнасцю мацней перажываць увесь спектр чалавечых эмоцый і гэтыя пачуцці ўдасканальваць, распаўсюджваць».

Слухаць рамантычную музыку прыемна, але разам з тым адказна. Такога слухача не задавоаляць «павярхневыя канфармісцкія забавы, яны шукаюць глыбокіх перажыванняў», — упэўнена Агнэс.

**Ева САЛАК.**

**Пераклад Маргарыты ДЗЯХЦЯР**

# Класіка для ўсіх

Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова вядомы сваімі цікавымі праграмамі класічнай музыкі і супрацоўніцтвам з музыкантамі з усяго свету. Канцэрт «Для ўсіх. Ад Баха да джаза» адбудзецца 21 снежня ў Вялікай зале філармоніі, пазнаёміць слухачоў з музычнымі стылямі і наблізіць прадчуванне свята і чараўніцтва. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь Яўген Бушкоў распавёў, што чакае слухачоў 21 снежня.

**— Канцэрт называецца «Ад Баха да джаза». Чаму так?**

— Таму што перыяд ахоплівае ўвесь час існавання заходнееўрапейскай музыкі. Акрамя таго, гэта сувязь эпох, розных на першы погляд, але такіх падобных менавіта дзякуючы імправізацыйнаму пачатку, які з'яўляецца асновай джаза. Падчас канцэрта мы здзейснім займальнае падарожжа па шляху змен музычнай мовы за чатыры стагоддзі, пачынаючы з XVII. У якасці асноўных пунктаў мы возьмем Баха, гумар і джаз!

**— Якую праграму разам з аркестрам прадставіце слухачам?**

— Нават у такога сур'ёзнага майстра, як Бах, ёсць творы, што сталі шлягерамі сусветнага маштабу дзякуючы гумару. Адзін з іх — «Жарт» для флейты і струнных з Сюіты № 2. Набліжаецца Новы год, гэта кароткая п'еса задае тон і форму канцэрту. Пасля прагучыць Сімфонія № 15 Моцарта — вечная крыніца аптымізму, дасканаласці і лёгкасці. Наш саліст выбраў твор рамантычнай эпохі, які прагучыць у Мінску ўпершыню — «Канцэртштук» Карла Райнэке, найбуйнейшага нямецкага кампазітара, што стане для многіх адкрыццём. Гэта цудоўная п'еса для фартэпіяна і камернага аркестра, якая вяртае ў кранальны свет чыстых эмоцый. Застаецца толькі шкадаваць, што мы так мала чуем музыку Райнэке. А затым лацінаамерыканскі аўтар Альдэмара Рамэра і расійскі кампазітар Уладзімір Мішле створаць у зале пераднавагоднюю атмасферу музычнага свята.


*Саліст Аляксандр Магілеўскі.*

**— Каго вы запрасілі выканаць адну з самых цікавых частак канцэрта — джазавыя імправізацыі?**

— Увесь цыкл канцэртаў «Ад Баха да джаза» заснаваны на супрацоўніцтве з салістамі, якія валодаюць дарам імправізацыі. У свеце іх не шмат. Аляксандр Магілеўскі — адзін з іх. Ён нячаста прадстаўляе гэтую грань свайго таленту публіцы, тым больш каштоўнай становіцца яго згода зрабіць для нас выключэнне.

**— Адна частка назвы канцэрта — «Для ўсіх». Чым вы кіраваліся падчас стварэння праграмы, каб яна атрымалася лёгкай і зразумелай масаваму слухачу?**

— «Для ўсіх» хутчэй азначае тое, што кожны ў гэтай праграме знойдзе нешта для сябе. Я лічу за лепшае не ісці за густам шырокай аўдыторыі — намагаюся фарміраваць яго. На гэты раз, канечне, — са спасылкай на Новы год.

**Юлія КАРДАШ**

# З песняй па жыцці


*Гурт «Раме» падчас выступлення на конкурсе.*

**V Міжнародны фестываль-конкурс народнай песні «Як на рэчцы было на Фантанцы» прайшоў у Санкт-Пецярбургу.**

Колішняя ініцыятыва рэктара санкт-пецярбургскага інстытута культуры Аляксандра Тургаева і былога міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі, якія ў 2011 годзе фундавалі гэты этнамузычны форум, дагэтуль мае плённы і спрыяльны для ўсходнееўрапейскага фальклору працяг.

Беларусь сёлета прадстаўляла моцная дэлегацыя ў складзе народнага хору Мінскага музычнага каледжа, вакальна-харэаграфічнага ансамбля «Валачобнікі» імя Станіслава Дробыша і фальклорнага гурта «Ра́ме» кафедры этналогіі і фальклору сталічнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Паколькі два апошнія калектывы ўтвораны са студэнтаў БДУКМ, будучыя спецыяльнасці якіх напарсрэдна звязаны з адраджэннем і папулярызацыяй каранёвага мастацтва Беларусі, фестывальную вандроўку не раз абмяркоўвалі ў студэнцкім асяродку. Мы шчыра парадаваліся за хор каледжа і за «Валачобнікаў», якія занялі першыя месцы ў намінацыі «Стылізаваныя спевы», за пачэснае 2-е месца ў намінацыі «Фальклорныя спевы» і яшчэ раз за ансамбль імя Станіслава Дробыша, калі на гала-канцэрце «Валачобнікі» атрымалі Гран-пры.

Нам даводзілася бываць на гэтым прадстаўнічым форуме тры гады таму ў складзе ансамбля беларускай музыкі «Талака» (тады заваявалі Гран-пры). Новыя тэндэнцыі ў народна-песенным усходнееўрапейскім асяродку падаліся цікавымі. У чарговы раз пераканаліся, што абралі перспектыўную і запатрабаваную прафесію — перайманне айчыннага фальклору адэкватнымі сродкамі і метадамі. У 2013 годзе рэпертуар мінскай «Талакі» быў пабудаваны на экспедыцыйных запісах аўтэнтыкі і выглядаў досыць экзатычным і нечаканым для «Фантанкі». Сёлета рэканструкцыі аўтэнтычнага фальклору на фэсце пераканаўча дамінавалі. Прычым у якасным і годным выкананні: і ў прачытванні падляшскіх беларусаў з Польшчы (гурт «Жэмерва»); і ў асяродках расійскіх калектываў (з Маскоўскага і Санкт-Пецярбургскага інстытутаў культуры, акадэміі імя Гнесіных, цэлай плеяды вельмі моцных гуртоў з Белгарада, з калектываў каледжаў і вузаў Іжэўска і Екацярынбурга); і (па меркаванні журы і калег-канкурсантаў) у нашых, арыентаваных на цэнтральнабеларускую традыцыю, досведах рэканструкцыі айчыннага фальклору гуртом «Ра́ме».

Было прыемна бачыць, што каранёвае мастацтва розных народаў, падмацаванае музычна-інструментальным аздабленнем (гучалі звонкія рускія гуслі і жалейкі, архаічная абертонная флейта, польскія скрыпкі і беларускія дуды і інш.), прыбранае ладнымі аўтэнтычнымі танцамі і пластыкай, не пакідала абыякавымі і гледачоў, і маладых удзельнікаў, і конкурснае журы.

Фальклорныя спевы, найгрышы і харэаграфія, прэзентаваныя на фестывальнай сцэне больш як двума дзясяткамі калектываў, пераважалі ў параўнанні са стылізацыямі фальклору, прапанаванымі шасцю харамі і ансамблямі. Залы былога палаца герцагаў Альдэнбургскіх, якія памятаюць крокі пецярбургскіх арыстакратак і балерын, Пушкіна і Гогаля, прадстаўнікоў імператарскай фаміліі Раманавых, дзе разгортваліся падзеі містычнай «Пікавай дамы», а цяпер навучаюцца студэнты Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры, цудоўна рэзаніравалі каранёвай этнафоніі Усходняй Еўропы і надавалі яе фальклору статус высокага мастацтва.

**Кацярына ВОЙЦІК,**
**Валерыя ГРЫНКЕВІЧ**

# Як «параненая рыба»

## Гісторыя жыцця Алены Кіш натхняе сучасных айчынных мастакоў

**Талент, майстэрства народнай мастачкі пры жыцці не былі адзначаны, але цяпер яе наіўныя творы натхняюць сучасных творцаў. У сталічнай галерэі «Універсітэт культуры» працуе выстаўка памяці генія наіўнага мастацтва Беларусі Алены Кіш.**

Усе нешматлікія выстаўкі (першую выстаўку «маляванак» Алены Кіш у 1978 годзе арганізаваў Уладзімір Басалыга), прысвечаныя творчасці аўтара маляваных дываноў, што ладзяцца на айчынных пляцоўках, выклікаюць цікавасць з боку прадстаўнікоў творчых кірункаў і аматараў мастацтва. Выстаўка ў галерэі «Універсітэт культуры» — не выключэнне. На адкрыцці праекта сабралася шмат неабыякавых. Экспазіцыя падрыхтавана па выніках пленэру «З Аленай Кіш у сэрцы», арганізаванага галерэяй «Мастацкі маёнтак» і ўстановай «Цэнтр экалагічных рашэнняў» пры падтрымцы мецэната



*Алена Кіш «У садзе».*

Святланы Воранавай у вёсцы Дуброва (Лагойскі раён). Так, на выстаўцы можна ўбачыць творы беларускіх мастакоў Ганны Балаш, Аляксандра Дзямідава, Аляксандра Наўгародцава, Жанны Капуснікавай і іншых.

Канечне, аўтары, што ўзялі ўдзел у пленэры, не пішуць у стылістыцы наіўнага мастацтва, не ствараюць «маляванкі» і тым больш не прэтэндуюць на невядомасць, але жыццёвы і творчы патэнцыял мастакоў накіраваны на адлюстраванне райскай тэматыкі, падобнай да той, якую ў работах выкарыстоўвала Алена Кіш. На працягу двух тыдняў мастакі стварылі свой райскі сад. Яны так натхніліся атмасферай, тэмай пленэру, што большасць іх твораў не проста прысвечаныя Алене Кіш, а дораць тое, што ёй было так патрэбна. Напрыклад, мастачка Ганна Балаш стварыла карціну «Дом для Алены». Гэта дом, якога ў Алены Кіш ніколі не было, які яна шукала, пазіцыянавала, ствараючы ўнікальныя дываны. А Аляксандр Дзямідаў напісаў карціну «Музыка для Алены». Дарэчы, падчас пленэру Аляксандр Дзямідаў убачыў, як каля берага возера вясковыя хлопцы стралялі ў рыбу з лука. Гэта сітуацыя адбілася ў памяці творцы, а потым стала метафарай унутранага свету мастачкі. Аўтар адзначае, што падчас жыцця Алена Кіш была «параненай рыбай», яна хавала свой боль ад іншых, але заглушыць унутры сябе не змагла.

Алена Кіш не мела спецыяльнай адукацыі, але яе маляваныя дываны знайшлі месца ў многіх сялянскіх хатах. Райскія сюжэты мастачкі падабаліся простым людзям, яны замаўлялі Алене дываны, якія пасля дарылі блізкім на розныя святы (асабліва вяселле) альбо захоўвалі ў сябе як своеасаблівыя абярэгі — на шчасце. У той час не плацілі грашыма, за дываны мастачка прасіла толькі прадукты і начлег. Яна намагалася дарыць людзям тую райскую ідылію, якую ў час НЭПа, калектывізацыі і вайны дасягнуць было практычна немагчыма. Маляваныя дываны Алены Кіш з фантастычна-алегарычнымі сюжэтамі не маюць аналогій. Але ж такі від мастацтва дастаткова складаны з пункту гледжання захавання: «маляванкі» з цягам часу губляюць колер і маюць патрэбу ў рэстаўрацыі.

На выстаўцы дываны Алены Кіш прадстаўлены з фондаў музея-запаведніка «Заслаўе» і прыватных калекцый. Экспанаты дэманструюць тры асноўныя тэмы ў творчасці мастачкі. Яны адзначаны ў назвах: «Райскі сад», «Ліст да каханага» і «Дзева на водах». Апошняя вельмі сімвалічная: майстрыха скончыла жыццё самагубствам, утапіўшыся ў рацэ.

Жыццёвы шлях Алены Кіш выклікае спачуванні. На адкрыцці выставачнага праекта мастачка Ганна Балаш не змагла стрымаць слёз, калі распавядала, як на вёсцы Алену Кіш лаялі дзівакаватай за любоў да прыгажосці зямлі і жывёл, лаялі дармаедкай за тое, што яна не мела дома, гаспадаркі (з успамінаў бабулі Ганны Балаш).

Гэтая маладая жанчына была геніем з народу, але, як часта бывае, не прызнаным своечасова. Імя Алены Кіш уваходзіць у Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва нароўні з такімі прозвішчамі, як Русо і Пірасмані. Арганізатары выстаўкі і гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» заклікаюць звярнуць увагу: магчыма, у каго-небудзь сапраўдныя шэдэўры мастацтва проста так ляжаць непатрэбнымі на гарышчы альбо ў іх, як і ў пачатку 1950-х гадоў на вёсцы, захоўваюць зерне альбо гародніну. Гэтыя «маляванкі» — унікальны скарб беларускай зямлі, які абавязкова трэба захаваць як сімвал культуры народа і памяць пра таленавітую мастачку.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Аляксандр Дзямідаў «Музыка для Алены», 2016 г.*

## Культурны ракурс



**Гэты помнік — капліца — ужо амаль чвэрць стагоддзя стаіць у Рэчыцы, на высокім беразе Дняпра. Адкрыццё капліцы ў верасні 1995 года асвяцілі Дабратворным Агнём з Гроба Гасподняга. Аўтар капліцы, ураджэнец Рэчыцы Эдуард Агуновіч, задумваў яе ўзвядзенне як напамін пра важныя падзеі — 1000-годдзе Хрышчэння Русі, 50-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, а таксама ў гонар воінаў-інтэрнацыяналістаў і ахвяр Чарнобыльскай катастрофы. Але ў народзе замацавалася іншая назва — капліца Еўфрасінні Полацкай.**

**Менавіта насупраць гэтага месца, на прыстані, 25 красавіка 1910 года (па старым стылі), а 9-й раніцы, прышвартаваўся параход «Галавачоў», на якім прыбылі ў Рэчыцу святыя мошчы прападобнай Еўфрасінні, што перавозіліся з Кіева ў Полацк. Высокі бераг стаў для мясцовых жыхароў святым месцам. Кожны год, 5 чэрвеня, у дзень святой Еўфрасінні, ладзіцца хрэсны ход да помніка і царкоўная служба каля яго.**

**Яўген ШАСТАКОЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 1.12.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1601.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4824

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686